*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 22 мая 1987 г. № 21 (3379) ⊖ Выходзіць з 1932 г. ⊖ Цана 10 кап.

Удзельніца мастацкай самадзейнасці Салігорскага Палаца культуры Жанна КАЗЛОЎСКАЯ.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## У НУМАРЫ:

# НА КАРЫСЦЬ СУЧАСНІКАЎ, ДЗЕЛЯ НАШЧАДКАЎ

## З Устаноўчай канферэнцыі Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры

Каб паспяхова рашаць задачы па рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры, важна своечасова праводзіць навуковыя даследаванні, распрацоўваць неабходную праектна-каштарысную дакументацыю. Таму сёлета ў сакавіку Дзяржбуд БССР прыняў рашэнне аб стварэнні Беларускага спецыялізаванага інстытута па распрацоўцы праектнай дакументацыі для рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры «Белспецпраектрэстаўрацыя» ў складзе аб'яднання «Белрэстаўрацыя» Міністэрства культуры БССР.

Сёння, сказала Н. М. Мазай, аб'ём рэстаўрацыйных работ, якія неабходна выканаць па помніках рэспублікі, складае каля 500 мільёнаў рублёў. Каля 8 тысяч помнікаў гісторыі і культуры знаходзяцца ў дрэнным тэхнічным стане і патрабуюць неадкладнай кансервацыі. Наспеў час з большай адказнасцю і зацікаўленасцю ставіцца да гэтай важнай справы.

**У дакладзе падкрэслівалася, што нямала агульных задач у Рэспубліканскага аддзялення фонду культуры з музеямі — дзяржаўнымі і грамадскімі. Умацаваць, пашырыць кантакты музеяў праз Фонд з калекцыянерамі—яшчэ адна крыніца, праз якую можна істотна ўзбагаціць музейныя фонды новымі калекцыямі і асобнымі творамі мастацтва. Думаецца, зазначыла прамоўца, што беларускае аддзяленне ўважліва разгледзіць пытанне аб сітуацыі з прыватнымі калекцыямі, аб творчай спадчыне народных майстроў рэспублікі з мэтай фарміравання на іх базе новых музеяў.**

Н. М. Мазай прыгадала і другую праграму Савецкага фонду культуры «Пушкін у сэрцах пакаленняў». Яе сэнс не вычэрпваецца клопатам аб усім тым, што так або інакш звязана непасрэдна з імем Пушкіна. Арганічнай часткай рэалізацыі гэтай праграмы ў рэспубліцы, падкрэсліла яна, стане работа па ўвекавечанні, адраджэнні і папулярызацыі гісторыка-літаратурных мясцін Беларусі, звязаных з імёнамі вядомых беларускіх асветнікаў і пісьменнікаў Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Пашкевіч (Цёткі), М. Гарэцкага, П. Труса, беларускіх савецкіх пісьменнікаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

**У хуткім часе мы будзем адзначаць 500-гадовы юбілей Францыска Скарыны. Падрыхтоўка да яго ўжо пачалася. Спецыяльная камісія вядзе пошук новых матэрыялаў у архівах краіны і за мяжой. Будуць перавыданы працы вучонага-першадрукара, выйдзе ў свет прысвечаны яму альбом. Творчыя саюзы і Міністэрства культуры рэспублікі правядуць творчыя конкурсы. Дакладчык адзначыла, што пачалася ўжо рэстаўрацыя помніка XVIII ст. былой брацкай школы на тэрыторыі Полацкага запаведніка, дзе размесціцца музей гісторыі кнігадрукавання. Думаецца, сказала Н. М. Мазай, што рэспубліканскае аддзяленне Фонду культуры можа аказаць *істотную дапамогу* музею ў стварэнні экспазіцыі, далучыць да гэтай важнай справы калекцыянераў і аматараў кнігі.**

У дакладзе прагучала думка, што сёння нам неабходна дакладная праграма правядзення літаратурных святаў, прысвечаных творчасці выдатных дзеячаў літаратуры і культуры ў цэлым, своеасаблівы каляндар знамянальных дат, каб такія памятныя мясціны, як Купалава Вязынка, Кушляны—Ф. Багушэвіча, Нізок — П. Труса, Глінішча—І. Мележа сталі б месцамі сапраўдных святаў нашай беларускай савецкай культуры.

Н. М. Мазай спынілася на тэме «Моладзь і культура», якая з'яўляецца адной з праграм Савецкага фонду культуры. Яна прывяла словы М. С. Гарбачова на XX з'ездзе ВЛКСМ: «Работа з моладдзю не можа быць адарвана ад усёй праграмы культурна-асветных задач, ідэйна-маральнага фарміравання асобы. Мы не можам дапусціць разрыву паміж ростам матэрыяльнага стану і духоўнай спеласцю чалавека. Сёння яскрава бачна: многія цяжкасці перабудовы, абнаўлення грамадства народжаны недахопам культуры ў самым шырокім яе разуменні». Вось чаму, падкрэсліла прамоўца, вельмі важна, каб грамадская ўвага да новых ідэй і адкрыццяў, патрыятычных пачынанняў моладзі не слабела.

Неабходны ўдзел аддзялення Фонду культуры і ў «Комплекснай праграме эстэтычнага выхавання насельніцтва рэспублікі», якая цяпер распрацоўваецца АН БССР, шэрагам міністэрстваў, ведамстваў, творчых саюзаў, грамадскіх арганізацый Беларусі.

**Н. М. Мазай закранула праблему выяўлення фальклорных багаццяў, народных рамёстваў, далучэння шырокага насельніцтва да іх праз агляды і конкурсы II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці.**

**Мерапрыемствамі ЦК КПБ па рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда КПСС і XXX з'езда КПБ, зацверджанымі II пленумам ЦК Кампартыі Беларусі, прадугледжана стварэнне 60 сельскіх карцінных галерэй. У нас ёсць *прыклады, дастойныя падтрымкі*, працягвала прамоўца. У 1983 годзе ў саўгасе «Гарадзец» Шаркоўшчынскага раёна ў будынку помніка архітэктуры быў адкрыты музей, экспазіцыя якога на грамадскіх пачатках створана беларускімі мастакамі. Больш за 70 жывапісных і графічных работ перадалі музею мастакі В. Цвірка, А. Паслядовіч, Л. Шчамялёў, А. Марачкін, У. Тоўсцік, Э. Агуновіч, В. Савіч, А. Кашкурэвіч і іншыя. Дапамагаць ствараць цэнтры мастацкага і эстэтычнага выхавання ў сельскіх раёнах—абавязак і Беларускага рэспубліканскага, і абласных аддзяленняў Савецкага фонду культуры.**

*Н. М. Мазай спынілася і на* такім аспекце дзейнасці Беларускага аддзялення Фонду, як яго ўдзел у справе вяртання на Радзіму твораў мастацтва, архіўных матэрыялаў, іншых помнікаў гісторыі і культуры, якія знаходзяцца за рубяжом, і перадачы іх музеям, архівам, бібліятэкам, іншым сховішчам. Прамоўца падкрэсліла, што ў гэтай высакароднай справе Беларускаму аддзяленню Савецкага фонду культуры вялікую дапамогу павінны аказаць Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, а таксама Беларускае аддзяленне Савецкага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом «Радзіма».

У заключэнне Н. М. Мазай спынілася на пытаннях, звязаных з арганізацыйнай дзейнасцю аддзялення Фонду культуры ў рэспубліцы. Уся яго работа, сказала дакладчык, будзе ажыццяўляцца, як гэта абгаворана ў Палажэнні, за кошт уласных сродкаў. Яны будуць складацца, па-першае, з даходаў ад вытворчай дзейнасці, г. зн. грашовых паступленняў ад створаных прадпрыемстваў і майстэрань, гаспадарча-разліковых падраздзяленняў, якія займаюцца кансервацыяй, рэстаўрацыяй і аднаўленнем помнікаў гісторыі і культуры, выпускам сувенірнай прадукцыі і вырабаў культурна-бытавога прызначэння па заказах Фонду. Па-другое, са сродкаў, якія выдаткоўваюцца аддзяленню Фонду праўленнем СФК. Па-трэцяе, з добраахвотных укладаў грамадзян і адлічэнняў грамадскіх арганізацый на рэалізацыю асобных праграм і мерапрыемстваў. Істотнай крыніцай даходаў стануць паступленні ад правядзення аўкцыёнаў, выставак-продажаў, латарэй, канцэртаў, творчых вечароў і іншых *мерапрыемстваў аддзялення Фонду.*

**Утрыманне апарату аддзялення і ўпаўнаважаных Фонду ў рэспубліцы будзе ажыццяўляцца за кошт сродкаў, выдатканаваных праўленнем Усесаюзнага Фонду культуры.**

***За аддзяленнямі Фонду*** **замацавана права арэндаваць нерухомыя помнікі гісторыі і культуры, якія знаходзяцца ва ўласнасці дзяржавы, заключаць ахоўна-арэндныя дагаворы з мясцовымі дзяржаўнымі органамі *аховы помнікаў*, ажыццяўляць пад кіраўніцтвам спецыялістаў рэстаўрацыю гэтых помнікаў, выкарыстоўваючы сродкі рэспубліканскага аддзялення Фонду культуры.**

**Н. М. Мазай расказала пра структуру Беларускага аддзялення Фонду. У ім будзе чатыры аддзелы: праектаў садзейнічання збору, захаванню і прапагандзе нацыянальных культурных каштоўнасцей; праектаў садзейнічання ўзнаўленню і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры; па сувязях з грамадскасцю і інфармацыйна-прапагандысцкім забеспячэнні рэалізацыі праектаў; арганізацыйна-інспектарскі аддзел.**

Хочацца яшчэ раз падкрэсліць, зазначыла ў заключэнне Н. М. Мазай, што Савецкі фонд культуры—самаўпраўленчы орган грамадскасці. Вось чаму дзейнасць Беларускага аддзялення Фонду павінна перш за ўсё абапірацца на шырокі грамадскі актыў, трымаць кантакты з адпаведнымі грамадскімі арганізацыямі рэспублікі.

## «НАМ НЕЛЬГА СТРАЧВАЦЬ ПАЧУЦЦЯ ПАЧАТКУ...»

ГЭТУЮ ДУМКУ выказаў у сваім выступленні народны паэт Беларусі, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, Герой Сацыялістычнай Працы **Максім Танк.** Умовы і спосабы асваення культурнай спадчыны ў нашай рэспубліцы маюць сваю спецыфіку, сказаў ён, бо на працягу толькі XX стагоддзя Беларусь неаднойчы станавілася арэнай жорсткіх бітваў. У нашай рэспубліцы, больш чым у якой іншай, даводзілася адцягваць дзяржаўных і народных сродкаў на аднаўленне разбуранай войнамі эканомікі, працягваў М. Танк. У выніку цярпелі літаратура і мастацтва, культурнае будаўніцтва, падрыхтоўка адпаведных кадраў. *Як адзін з вынікаў гэтага*—абмежаваная колькасць тэатраў і канцэртных залаў у сталіцы рэспублікі. За пасляваенныя гады ў Мінску не было пабудавана ніводнага новага тэатральнага будынка, мы ўсё нешта прыстасоўвалі, падсялялі, часова пасялялі, у выніку тэатры не мелі ўмоў для творчага разгарнення. З праектам будынка старэйшага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы шмат год насіліся, але так і не вызначылі месца для яго будаўніцтва.

**Аднак жа былі і ў гэты перыяд цудоўныя творы літаратуры і мастацтва, працягваў Максім Танк, умацоўваліся пазіцыі сацыялістычнага рэалізму, развіваўся яго метад, і гэтыя дасягненні закрэсліваць не варта. Мова, літаратура, гісторыя — вось тыя краевугольныя цагліны, якія былі і застаюцца ў вялікай справе выхавання падрастаючага пакалення, зазначыў прамоўца. Варта было забыцца на гэтую спрадвечную ісціну, як пачало лезці з усіх шчылін нашага грамадства невуцтва ў пытаннях гісторыі, бяспамяцтва, раўнадушша, нядбайства. Пачалася неаб'яўленая «вайна з гісторыяй», у выніку якой знікла ў Мінску легендарная Няміга з дзевяцісотгадовым замчышчам ля яе, перайначылася да непазнавальнасці *плошча Свабоды* — фарпост гераічнага змагання мінскіх пралетарыяў у рэвалюцыях дзевяцьсот пятага і семнаццатага гадоў. Зніклі або дажываюць свой век многія цікавыя сваёй архітэктурай будынкі 17—18 стагоддзяў у Магілёве, Гродне, Віцебску і іншых гарадах рэспублікі.**

На думку Максіма Танка, аддзяленню Савецкага фонду культуры, якое ствараецца ў Беларусі, варта было б правесці своеасаблівы лікбез па гісторыі рэспублікі для работнікаў Саветаў народных дэпутатаў, звязаных з гарадскім і сельскім будаўніцтвам, каб прадухіліць непажаданыя з'явы вольнага абыходжання са шматвяковай матэрыялізаванай памяццю народа. Каб не толькі кіраўнік будаўнічага ўпраўлення, але і радавы інжынер, будаўнік-выканаўца дасканала ведаў, дзе ён арудуе сваім легкамысным рэйсфедарам або цяжкім экскаватарам ці бульдозерам, і турбаваўся пра тое, а ці не ўварваўся ён у ахоўную зону, дзе мо захоўваецца старажытны культурны пласт.

Тут ёсць што рабіць і нашай літаратуры—ствараць на матэрыяле гістарычнай даўніны хвалюючыя творы пра здзяйсненні нашага народа на ўсім шматвекавым шляху яго жыцця. Асабліва дарагія для кожнага з нас не даследаваныя яшчэ як след сродкамі мастацтва падзеі новай гісторыі, звязанай з Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, з той гіганцкай барацьбой, якая вялася за ўстанаўленне Савецкай улады на Беларусі, за адстойванне высокіх рэвалюцыйных ідэй Кастрычніка.

***Рэспубліка мае велічныя дасягненні. І сёння, калі савецкае грамадства зноў правяраецца на дынамізм, на здольнасць шпарка ўзнімацца па ступенях прагрэсу, нам нельга страчваць пачуцця Пачатку, бо мы будуем сапраўды новы свет.***

Думаю, працягваў прамоўца, што варта было б рашаць пытанне аб адраджэнні ў Мінску Музея Рэвалюцыі, дзе сённяшнія і наступныя пакаленні маглі б далучацца да жыватворнай сілы рэвалюцыйных ідэй. Большай увагі заслугоўваюць і тыя краязнаўчыя школьныя музеі, якія ўсё часцей нараджаюцца з *ініцыятывы* настаўнікаў і вучнёўскай моладзі, але якія, бывае, не ўзнімаюцца вышэй этнаграфічных мэт. А яны павінны быць асновай для арганізацыі ў далейшым музеяў славы народнай, дзе моладзь атрымлівала б ясны і грунтоўны адказ на спрадвечнае пытанне—адкуль пачынаецца Радзіма.

**Больш за трыццаць гадоў, сказаў Максім Танк, вісіць у паветры справа з арганізацыяй агульналітаратурнага музея ў Мінску. Аднак жа ці тыя будынкі прадастаўляюць нам гарадскія ўлады для захавання літаратурнай спадчыны? Зайдзіце ў будынак будучага музея Максіма Багдановіча на той жа Траецкай гары... Нізкія столі, заплеснелыя сцены. Ці ж не тое будзе і ў будучым літаратурным музеі? Да таго ж, ці здолее экскурсавод перакрыць голасам шум і грукат напружанага грузапатоку, што бясконца рухаецца на гару па вуліцы Горкага? У свой час Саюз пісьменнікаў звяртаўся ў дырэктыўныя органы з просьбай прадаставіць для літаратурнага музея гістарычны будынак на рагу Карла Маркса і Леніна, які называўся Другім Домам Саветаў, дзе жылі вядомыя дзеячы Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы і дзе размешчаны зараз музей Петруся Броўкі. Аднак жа, нам адмовілі. Фонд культуры, трэба спадзявацца, вернецца да справы з літаратурным музеем, каб уключыць яго ў «Залатое кальцо» культурна-асветных устаноў беларускай сталіцы.**

**(Заканчэнне на стар. 4).**

**У перапынках паміж пасяджэннямі.**

Народны мастак СССР З. Азгур, народны артыст БССР кінарэжысёр І. Дабралюбаў, народны пісьменнік БССР В. Быкаў.

Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР паэт М. Лужанін і народны артыст БССР кампазітар А. Багатыроў.

Старшыня калгаса «Чырвоны сцяг» Валожынскага раёна, доктар эканамічных навук С. Шарэцкі і народны пісьменнік БССР І. Шамякін.

Фота Ул. КРУКА.

## КНІГАПІС




ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ПІСЬМЕННІКАЎ СВЕТУ. На славацкай мове. Браціслава. «Абзор». 1987.

**Трэцім, перапрацаваным і дапоўненым выданнем, славацкае выдавецтва «Абзор» выпусціла «Энцыклапедыю пісьменнікаў свету» (першае выйшла ў 1978 годзе). Гэта унікальнае выданне даведачнага плана, у якім пададзены біябібліяграфічныя звесткі аб 3300 пісьменніках свету. У кароткіх артыкулах коратка падаецца жыццёвы шлях творцаў, называюцца іх асноўныя кнігі, у тым ліку перакладныя, калі яны выходзілі ў Чэхаславакіі. Найбольш вядомыя літаратары прадстаўлены таксама фотаздымкам.**

**Славацкія чытачы атрымаюць дастаткова поўнае ўяўленне і аб беларускай літаратуры. У «Энцыклапедыі пісьменнікаў свету» расказваецца пра жыццёвы і творчы шлях (захоўваем парадак паказальніка «Беларуская літаратура», вынесенага ў канец выдання) Ф. Скарыны, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, Ц. Гартнага, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, К. Крапівы, М. Лынькова, К. Чорнага, У. Дубоўкі, Я. Пушчы, П. Броўкі, П. Глебкі, М. Лужаніна, М. Танка, А. Куляшова, А. Куляшова, Я. Брыля, П. Панчанкі, Ф. Янкоўскага, А. Макаёнка, А. Пысіна, І. Мележа, І. Шамякіна, В. Быкава, І. Навуменкі, А. Адамовіча, А. Вярцінскага, У. Караткевіча, Н. Гілевіча, П. Макаля, І. Пташнікава, В. Адамчыка, І. Чыгрынава, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, Я. Сіпакова, А. Кудраўца, Д. Бічэль-Загнетавай, В. Казько.**




М. ГЕРЧЫК. Час гаспадароў. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1986.

**Дакументальная аповесць М. Герчыка «Час гаспадароў» выйшла некалькі гадоў назад у выдавецтве «Мастацкая літаратура» на беларускай мове. Цяпер у аўтарскім перакладзе яна прапануецца ўсесаюзнаму чытачу. Расказваючы пра старшыню калгаса імя Суворава Пастаўскага раёна Валадзько і яго паплечнікаў, пісьменнік паказвае, як у гэтай гаспадарцы арыентуюцца на навейшыя метады сельскагаспадарчай вытворчасці, выконваюць Харчовую праграму.**

## ПРА КУПАЛУ, ПРА ВЯЗЫНКУ

**У кнізе Юрыя Осіпава «У парку старадаўнім...» — яе выпусціў часопіс «Огонёк» у сваёй бібліятэчцы — змешчаны нарысы, якія расказваюць аб знакамітых літаратурных мясцінах нашай краіны. «У ноч на Івана Купалу» — слова пра неўміручага Янку Купалу, пра Вязынку, дзе ён нарадзіўся, пра тое, як беларускі народ шануе памяць аб сваім песняры.**

**К. РУДЭНКА.**

## ЛІТАРАТУРНЫ ПРАЦЭС: НАЗІРАННІ, ЗАЎВАГІ, ДУМКІ

# СЯСТРА ці СЛУЖКА

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

ПАЭТЫ, празаікі, драматургі крытыку не любяць. Не любяць не ў тым значэнні, што адносяцца да яе варожа, а ў тым — што не адчуваюць да яе асаблівай зацікаўленасці і павагі. Нават крытыку не ў значэнні «крытыкаваць» — «выкрываць недахопы», а проста як разнавіднасць літаратуры. Нават тую, якая — пра іншых, альбо ўвогуле — пра сябе. Няшмат прыпамінаецца за апошнія гады артыкулаў паэтаў і празаікаў пра стан і праблемы сучаснай крытыкі, пра «вялікую яе ролю ў развіцці літаратуры» і пільную патрэбу яе для гэтай літаратуры. Падобныя сцвярджэнні ўласцівы больш прадстаўнікам крытычнага цэху і таму ўспрымаюцца чытачом досыць падазрона, як і сцвярджэнне пра асаблівую таленавітасць крытыка. Наўрад ці хто паверыць у існаванне чалавека, здольнага да прозы альбо драматургіі, які сур'ёзна вырашыў займацца найперш крытыкай.

А менавіта з веры ўсё і пачынаецца: калі верыць табе, а ты верыш у патрэбнасць і карыснасць сваёй справы.

Праблемы, пытанні... Зусім непадобныя ў розных пакаленняў і тыя, што ўзнікаюць на нейкім этапе перад кожным, раней ці пазней. Літаратурная крытыка прыцягвае сваімі магчымасцямі і адштурхоўвае пэўнай няздатнасцю; ад цвёрдай перакананасці ў яе дзейснасці, карыснасці для іншых жанраў літаратуры нас кідае часам у блюзнерства наконт яе малапатрэбнасці і нават шкоднасці.

Не веру ў крытыкаў, якіх ніколі не наведвалі сумненні, для якіх з самага пачатку і да канца ўсё было проста, вызначана, бясспрэчна: вельмі ўжо іх упэўненасць нагадвае ўпэўненасць чалавека, які баіцца знайсці негатыўны адказ адносна сэнсу і прызначэння сваёй працы, а таму ўвогуле вырашыў нічога не шукаць, бо так спакайней.

Пакутліва шукаў правільнага адказу, шукаў усім сваім жыццём, усёй творчасцю Варлен Бечык; ён верыў у сваю справу той верай, пра якую пісаў калісьці Сомерсет Моэм: каб прысвяціць сваё жыццё літаратурнай крытыцы, неабходна цвёрда верыць, што літаратура — адзін з галоўных відаў дзейнасці чалавека. Невыпадкова гэтае выказванне англійскага пісьменніка прыгадаў аднойчы ў сваім артыкуле Віктар Каваленка, невыпадкова, пішучы пра В. Каваленку, узнавіў цытату Варлен Бечык. Напісаны Варленам Бечыкам артыкул пра В. Каваленку ўспрымаецца разам з тым і як аўтабіяграфічны — пра чалавека, які «зрабіўся літаратарам не ў выніку збегу абставін (бывае і так: інстытут, аспірантура, дысертацыя — і пайшлі артыкулы і кнігі, якія нехта чытае хіба што па неабходнасці), а па душэўнай патрэбе, па асаблівай адоранасці, якая вызначае мэту і сэнс жыцця». Менавіта такога крытыка адольваюць у цяжкую часіну сумненні ў вартасці і неабходнасці сваёй справы, яму трэба ўвесь час самасцвярджацца, пакутаваць, бо толькі так магчыма знаходзіць, ствараць каштоўнасці сапраўдныя, а не ўяўныя.

У Варлене Бечыку здзіўляла і захапляла ягоная любоў да паэзіі, як ні банальна гэта гучыць. І як гэта ні гучыць парадаксальна, менавіта любоў да паэзіі вылучала яго сярод іншых таленавітых крытыкаў: любоў да кожнага добрага верша, радасць ад яго з'яўлення ў любога паэта, непасрэднае чытацкае ўспрыманне — вытанчанае, але не забітае прафесіяналізмам. Многія з крытыкаў успрымаюць і любяць мастацкую літаратуру перадусім як прадмет сваёй працы, аддаючы перавагу ў пачуццях самой крытыцы, і нічога злачыннага ў тым няма. Усведамляю, напрыклад, што пачаў пісаць пра паэзію выключна з-за цікавасці да крытыкі, і напачатку асобныя зборнікі ўспрымаў хутчэй як бліскучы альбо, наадварот, зусім непрыдатны матэрыял для своеасаблівага перакладу іх на мову іншага мастацтва. Але вельмі ўдзячны Варлену Бечыку, які ў спецкурсе па сучаснай паэзіі і па-за спецкурсам навучыў па-сапраўднаму разумець і любіць верш не дзеля чагосьці наступнага, а дзеля самога верша, атрымоўваць эстэтычную асалоду ад звычайнага чытання, без аналізу і вобразна-сімвалічнага пераўвасаблення ў новы тэкст, дастаткова тэрміналагізаваны і дастаткова чытэльны па змесце і манеры выкладу.

Крытыка, безумоўна, — не галоўная разнавіднасць літаратуры, хоць і не прыкладная, не выключна службовая: мае пэўную самастойнасць, права на ўласнае самаразвіццё, на пошукі новых форм аналізу і выяўлення.

Але і ў гэтым драбку самастойнасці крытыцы часта маўкліва адмаўляюць, часам з абыякавай згоды саміх крытыкаў, ствараючы ашчэ адну праблему сучаснай крытыкі ўвогуле і галоўную праблему, што паўстае неадольнай сцяной на пачатку творчага шляху маладых літаратараў. Дарэчы, паняцце «малады» ў крытыцы яшчэ больш умоўнае і недарэчнае, чым у іншых жанрах: успамінаецца адна «маладая» нарада, у якой студэнты баязліва туліліся побач з выкладчыкамі, а на Алу Кабаковіч, аўтарку трох цікавых кніг, але не члена СП, з неўразуменнем пазіралі віноўцы выпадковых рэцэнзій...

Уявім сабе «ўмоўнага» маладога чалавека, які напісаў першую рэцэнзію, адчуў асалоду творчага аналізу і вырашыў у далейшым злучыць свой лёс з літаратурнай крытыкай. Далібог, гэта вельмі цікава ўяўляць, хаця б таму, што з першых крокаў малады чалавек пачынае адкрываць для сябе безліч невядомых яму раней рэчаў — прыемных, не зусім і зусім непрыемных. Калі ён пачынаў сваё «літарацкае жыццё» з вершаў ці апавяданняў, ён сутыкнецца з шыракараспаўсюджаным меркаваннем, што крытыкі — у мінулым няўдалыя пісьменнікі, якія не здолелі пісаць самі і таму ўсялякімі сродкамі перашкаджаюць рабіць гэта іншым. Таму лепш, калі ён адразу пачне з крытыкі і будзе прыемна ўражаны, даведаўшыся, што рэцэнзіі нават заказваюць, на зайздрасць пачынаючым паэтам, вершаў якіх у рэдакцыі наўрад ці чакаюць з нецярпеннем.

Пачынаючаму крытыку не ўсё роўна, пра якую і чыю кнігу пісаць, але, магчыма, не так і важна. Захапляе сам працэс аналізу і наступнага выяўлення (амаль што радасць неафіта). І вось ён ужо разумее, што калі аб'ектыўныя крытэрыі ацэнкі твора існуюць, дык яны вельмі неакрэсленыя і неасязальныя, працуюць разам з інтуіцыяй, эстэтычным адчуваннем яшчэ да напісання рэцэнзіі і цьмяна ў ёй адлюстроўваюцца, бо тым ці іншым падборам цытат можна даць зусім процілеглыя ўяўленні пра кнігу, ускладніць паэта альбо спрасціць яго, а таму ўсё залежыць ад уласнага густу і ўласнага сумлення.

Можа, вы заўважылі, што рэцэнзіі маладых бываюць цікавейшыя і змястоўнейшыя, чым салідных, вопытных крытыкаў? Справа тут не заўсёды ў таленце; проста салідны крытык піша кнігі, даследаванні, артыкулы і толькі потым ужо рэцэнзіі, а для пачынаючага рэцэнзія — адзіна магчымае «ўсё разам», таму і энергіі, і думак, і часу ён укладвае ў яе значна больш, кампенсуючы недахоп вопыту. Але ці не да тых толькі гадоў, калі сам пачне пісаць даследаванні і кнігі?

Вялікае значэнне мае першая ненадрукаваная рэцэнзія. Чаму ненадрукаваная? Ды па самых розных прычынах. Прасцей за ўсё, калі праца проста не ўдалася: пачатковец альбо не зразумеў пісьменніка, альбо не змог выказаць сваё разуменне ў адпаведнай форме, альбо тое і другое разам. На няўдачах вучацца, асабліва калі ёсць каму гэтыя няўдачы не пусціць у друк і разумна, дэталёва растлумачыць прычыны, тыцнуць у памылкі. Горш, калі рэцэнзія не пайшла па кан'юнктурных прычынах: ад боязі кагосьці пакрыўдзіць, ад непрымання зместу ці формы рэцэнзіі, ад нязгоды ў ацэнках. Тады пачатковец са здзіўленнем заўважае, што не заўсёды і не пра кожнага можна пісаць аб'ектыўна, існуюць нават стабільныя, назаўсёдныя ацэнкі творчасці пісьменніка незалежна ад канкрэтнага ўзроўню канкрэтнай кнігі. Паэты і празаікі займаюць, аказваецца, нейкія пасады, працуюць часта ў тых жа рэдакцыях (альбо ў суседніх), куды меў няшчасце напісаць пра іх завельмі аб'ектыўную рэцэнзію неразумны юнак.

Спадзяёмся, што яму хопіць сумленнасці і ўпартасці, любові да літаратуры і веры ў сваю, няхай сабе мізэрную, патрэбнасць ёй, каб не паддацца на ваблівы покліч кан'юнктуры. Тым больш, што кан'юнктура ацэнак — не паўсюдная з'ява і не вызначае яна аблічча беларускай крытыкі, не перакрэслівае вартасцей і дасягненняў яе.

Безумоўна, як і кожнаму пісьменніку, крытыку патрэбна не толькі элементарная ўнутраная прыстойнасць, але і мужнасць, бо нельга апраўдвацца неэтычнымі паводзінамі іншых і патураць сабе. Літаратурнае жыццё непарыўна звязана з жыццём літаратараў, толькі не кожны добры хлопец — добры празаік, і неабавязкова прыгожая дзяўчына — таленавітая паэтэса, таму нельга атаясамліваць творчыя адносіны з адносінамі ў жыцці.

Вернемся аднак да нашага ўяўнага маладога чалавека. Магчыма, акрамя рэцэнзій, ён пачаў пісаць і артыкулы, шукаць нейкія новыя формы выяўлення, спалучаць навуковасць і чытэльнасць, элементы структурнага аналізу з імпрэсіяністычнымі замалёўкамі, чаргаваць разбор канкрэтнага твора з тэарэтычнымі разважаннямі, імкнуцца, як тое належыць, спалучаць у крытыцы навуку і мастацтва. Бо кожны сапраўдны крытык робіць штосьці і для развіцця самой крытыкі.

Не хачу сказаць, каб у нас прызвычаіліся да стандарту, але навацыі ў галіне формы ўспрымаюцца неўразумела і падазрона, адпаведна з агульным прынцыпам адносін да творчых пошукаў моладзі, сапраўды, як у тым іранічным жарце: «Там шукай і вось там шукай, а там — не-не, не трэба!»

Ці ёсць яна ўвогуле, форма, у крытыцы?

Але ў чым жа тады рэалізуецца змест?

Магчыма, у маладога чалавека з'явіцца пасля некалькіх год рэцэнзавання нават супастаўленне крытыкі са шлюбам у ЗАГСе: і там, і там патрабуюць адказваць, па сутнасці, толькі адно: «так» ці «не». Шмат хто бачыць задачу крытыка выключна ў падтрымцы здольных аўтараў і ў прымітыўна-службовым абслугоўванні патрэб мастацкай літаратуры. Якія ўжо тут пошукі, самаразвіццё і самаўдасканаленне! Па сутнасці, атрымоўваецца так: той, хто шукае, ускладняецца, сам стварае сабе будучыя перашкоды для надрукавання.

Яшчэ адна дылема: як ацэньваць літаратурныя творы — патрабавальна ці «параўнальна»? Здавалася б, ад параўнальнасці і зыходзіць патрабавальнасць, а высокая ступень патрабавальнасці гарантуе адпаведны ўзровень параўнання. Але на практыцы ўсё значна складаней. У аднаго крытыка слушныя патрабаванні да пісьменніка на ўзроўні класікі, у другога — на ўзроўні ўзроставых і рэгіянальных падгруп, у трэцяга — на ўзроўні ранейшай творчасці самога пісьменніка, у чацвёртага — увогуле ніякіх патрабаванняў. Адзін улічвае агульнасусветны літаратурны кантэкст, другі — агульнасаюзны ці агульнанацыянальны, трэці — кантэкст творчасці «маладых», «пачынаючых», чацвёрты — ... Уявіце сабе, што рэцэнзіі гэтых чатырох крытыкаў апублікаваны ў адным нумары газеты альбо часопіса. Што зразумее чытач, незнаёмы з творчымі прынцыпамі іх аўтараў? Ды навошта ўяўляць, успомніце хаця б рэцэнзію Анатоля Сідарэвіча на кнігу Алега Мінкіна «Сурма», цікавую рэцэнзію на адну з арыгінальнейшых кніг у беларускай паэзіі апошніх гадоў. Вышэйшы ўзровень патрабавальнасці да паэта, чым у гэтай рэцэнзіі, уявіць амаль немагчыма. У двух словах прызнаўшы бясспрэчную таленавітасць паэта і значэнне яго зборніка, крытык скіраваў усю ўвагу найперш на спрэчныя моманты і заўважаныя ім недахопы, аж да адзінкава-рэдкіх моўных хібаў. Само па сабе нічога заганнага ў тым не было, каб не было б у тым жа нумары газеты рэцэнзій іншых аўтараў на іншых маладых паэтаў... Што ж зразумеў з усяго гэтага чытач? Куды там Алегу Мінкіну да Людмілы Паўлікавай і Марыі Баравік! У яго ж моўныя хібы...

Вось і думай, пачынаючы крытык, чым кіравацца: патрабавальнасцю ці «параўнальнасцю», ды ўлічы пры гэтым не надта высокую культуру творчых узаемаадносін, аб чым пісалі колькі год назад В. Каваленка, В. Бечык, А. Станюта.

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

# ПЕСНЯ ПЕРШАЯ, ПЕСНЯ ДРУГАЯ...

**Маладая паэзія на старонках «МАЛАДОСЦІ»**

ШЧЫРА СКАЖУ: з нецярпеннем чакаю кожнага нумара «Маладосці». Атрымаўшы, перш за ўсё шукаю імёны маладых пісьменнікаў, спадзеючыся ўбачыць новае, цікавае, арыгінальнае. Маладыя ўсё ж — павінны шукаць, спрабаваць, рызыкаваць...

У мінулым годзе «Маладосць» прапанавала нам амаль 30 падборак маладых паэтаў. Мала гэта ці многа? Справа не ў колькасці. Кідаецца ў вочы тое, што мала адметных твораў, што маладая паэзія рэдка вырываецца з прывычнага кола тэм і матываў, паэтычных асацыяцый — усяго таго, што апрабіравана вопытам папярэдніх пакаленняў. У вершах не хапае адчування часу, амаль усе яны маглі б быць напісаныя і 15 гадоў таму. Канечне, ёсць так званыя «вечныя» тэмы, якія заўжды натхнялі і будуць натхняць мастацтва, але і тут трэба ўмець сказаць свежае, арыгінальнае слова.

Два апошнія гады былі багатыя на падзеі: і радасныя, і трагічныя... Я не кажу пра непасрэднае іх адлюстраванне: паэзія — не хроніка. Але калі гэтыя падзеі мелі агульначалавечае, агульнанароднае значэнне, калі менавіта яны вызначаюць дух часу, то паэт павінен, няхай апасродкавана, адгукнуцца на іх. Аднак гэтага, на жаль, няма.

Цяжка зразумець крэда лірычнага героя З. Марозава. Паэт піша:

**Хваробай да ложка прыкуты,**
**Я вольны, як птушка, пры тым,**
**Турбот паўсядзённыя путы**
**Пакінуў у свеце другім.**

«Другі свет» — гэта «чалавечы мурашнік, дзе правіць цяпер мітусня». Цікава, што разумее паэт пад «мітуснёй»? Ён склаў свой «джэнтльменскі набор» і карыстаецца ім у кожным вершы: «роспач — плач — журба — жаль — спакой», — прычым гэта, як піша сам аўтар, вынік імкнення

**Сярод звычайных слоў**
**Знайсці такія гукі,**
**Якія без прынукі**
**Паклаліся б на песні,—**
**Жывыя, як жыццё...**

У вершах З. Марозава праяўляецца нейкая неадпаведнасць асобы паэта, яго жыццёвага вопыту духоўнаму свету лірычнага героя. Такое ўражанне, што ён, збаяўшыся цяжкасцей, ізалюецца ад людзей, ад жыцця...

Безумоўна, на сваім шляху чалавек сустракае многа розных перашкод, праблем, але іх трэба пераадольваць, а не паддавацца, апусціўшы рукі, адчаю і песімізму.

**Запросіць літасці, збавення**
**бездапаможная душа —**
**вазьмі спагаду у натхнення,**
**пазыч цярпенне ў мураша,—**

піша Соф'я Шах. Даволі позна прыйшоўшы ў літаратуру, перажыўшы перыяд вучнёўства ў самой сабе, паэтэса ўсё больш выяўляе сталасць сваёй жыццёвай пазіцыі. Лірычная гераіня яе вершаў успрымае рэальна, цэласна

**гэты свет безабаронна-белы,**
**дзе замала толькі проста жыць.**

Вершы С. Шах прываблівають трапнасцю і ёмістасцю вобразаў, шчырасцю пачуцця і непасрэднасцю.

Камернасцю, абмежаванасцю далягляду вызначаюцца падчас вершы Л. Паўлікавай і Л. Забалоцкай і некаторых іншых нашых паэтэс. Уся падборка апошняй вытрымана ў духу якогасьці неадольнага песімізму.

Маладая паэзія — паэзія маладых пачуццяў. Пра каханне пішуць многія. Але любоўная лірыка — адзін з самых складаных жанраў паэзіі. Нідзе так не выяўляецца фальш, надуманасць, паэтычная бездапаможнасць. У інтымнай лірыцы кожны піша тое, што яму падказвае сэрца. А што менавіта? Вершы гэтага жанру ў маладых паэтаў вызначаюцца стракатасцю. Так, Ж. Пахадня піша наіўны «Трыялет» («І за што ты кахаеш мяне?..») і пранікнёны верш «Ціхай апошняю ластаўкай...». Кранае светлым сумам, шчырасцю элегічнага настрою верш «Дакраніся часам да мяне...» Р. Бялячыца. В. Шніп апявае запазычаныя, ужо не раз апетыя пачуцці:

**Нічога я не абяцаю,**
**Нічога мне не абяцай.**
**Што будзе заўтра — я не знаю,**
**Цябе кахаю — вечна, знай.**

Своеасаблівым «певцом любви» выступае В. Шлыкаў — усе яго маладосцеўскія вершы пра каханне. Відаць, што паэт адчувае слова, валодае рытмам, умее пабудаваць радок... Але яго творы не вызначаюцца арыгінальнасцю, адчуваюцца прамыя запазычанні, перапевы даўно вядомага.

Калі чытаеш інтымную лірыку У. Сіўчыкава, адчуваеш, што яна мае рацыяналістычны пачатак. Вобразы пачуццёва ненапоўненыя. Пра гэта сведчаць і недакладнасці, выкліканыя «недадуманасцю» вобраза. Вось, напрыклад, чытаем:

**Сарванай кветкай (што таму віной?)**
**Каханне беззваротна вяне-гіне.**
**Я чорным крэслю ўпоперак ліста.**
**У сэрцы верад, стынь, адчай, слата.**

Інакш кажучы, паэт розумам усведамляе, што такімі словамі ў прынцыпе можна было б акрэсліць душэўны стан лірычнага героя ў падобнай сітуацыі. Адсутнасць асабістай пачуццёвай асновы прыводзіць і да стылявых перайманняў.

**«Дзень гэты,— так пісаў Катул,—**
**Я белым каменем адзначу»,—**

чытаем у М. Багдановіча. У. Сіўчыкаў уносіць у выказванне некаторыя карэктывы і заканчвае свой верш «Пад старой таполяй» так:

**Але важнае штосьці са мной адбылося,**
**Я каменьчыкам белым адзначыў той дзень.**

Надуманасць — хвароба, уласцівая многім, асабліва ў вершах пра вайну. Неперакананальнасць пачуцця псуе вершы А. Бабаеда, А. Пісарыка. Не знайшла сапраўднай мастацкай рэалізацыі цікавая творчая задума В. Шніпа: у вершы «Быль 1944-га года» ён стварыў трапныя вобразы, але агульнае ўражанне псуюць лішнія, з прэтэнзіяй на эфектнасць, радкі. Адчуваецца, што тэма вайны, якой прысвечана падборка М. Башлакова, па-сапраўднаму хвалюе паэта, але некаторым творам бракуе цэльнасці.

Мне могуць запярэчыць, што маладое пакаленне само вайны не ўведала, таму высокія патрабаванні прад'яўляць яму нельга. Што ж, можа, і так. Але чаму тады самы, на маю думку, кранальны, самы шчыры верш на ваенную тэму ў «Маладосці»-86 — «Светаяннік» — належыць пяру А. Пісьмянкова, аднаго з маладзейшых? І чаму ў «Сустрэчы» У. Лужкоўскага, які сам — дзіця вайны, сапраўдныя, непрыдуманыя слёзы і радасць, боль і пяшчота павінны прабівацца праз надуманыя вобразы, штучныя ўпрыгожанні, неадпаведнасць характару выказвання і думкі, незразумелы, гуллівы, нібы з прыпеўкі, рытм?..

Спробы асэнсаваць паняцце бацькаўшчыны ў нацыянальным гісторыка-культурным кантэксце — у вершах Я. Мальчэўскай («Узнікненне горада», «Парадаксальнасць»), А. Пісьмянкова («Дума Вітаўта. 15 ліпеня 1410 г., Грунвальд»), Л. Забалоцкай («Крычаў»), многіх вершах А. Сыса, І. Багдановіч.

Безумоўна, кожны свае адносіны да радзімы выяўляе пасвойму, але ў любым выпадку гэта павіна быць слова, сказанае ад усяе душы, па-сыноўняму шчыра, тут трэба баяцца абстрактнасці, агульнасці вобраза. Калі ж паэт піша з устаноўкай «стварыць верш пра любоў да радзімы», то нараджаюцца, як гэта здарылася ў А. Бабаеда, прыкладна такія радкі:

**...назаўсёды родныя мясціны**
**у непарыўнай сувязі са мной.**

Пейзажная лірыка маладых прадстаўлена не вельмі багата. Але ў ёй выразна вылучаюцца светлыя акварэльныя замалёўкі Р. Бялячыца. А вось В. Лужкоўскі ў вершы «Возера ў бары» не сказаў нічога цікавага, хаця лірычны герой і запэўнівае нас, што ён «трапіў на прэм'еру сярод сасонак і бяроз».

Адметна, што ў маладой паэзіі ўсё мацней адчуваецца рэалістычны пачатак. Рэальны, штодзённы свет сам становіцца паэзіяй, і гэта добра. Праўда, важна яшчэ і тое, наколькі ён абжыты, падрыхтаваны для ўспрымання. У гэтым плане карысна параўнаць вершы двух паэтаў — пачаткоўца С. Адамовіча і аўтара дзвюх кніг Л. Дранько-Майсюка.

Што іх яднае? Вострае адчуванне свету, уменне ўбачыць і зафіксаваць тыя дробязі, прыватнасці, з якіх, уласна, і складаецца наша жыццё; у Л. Дранько-Майсюка іх сукупнасць ствараe арыгінальны мясцовы, давыд-гарадоцкі каларыт. У вершах жа С. Адамовіча перадаецца юнацкая непасрэднасць успрымання свету. Разам з ім мераеш вокам «снапы, як дубы» і цікуеш, як «...праз цень-агароджу фліртуе з чаромхай язмін-хітрунок, і слухаеш «кнігаўку тугі»...

Цікавы яшчэ адзін дэбютант «Маладосці» — А. Сыс. Выразна бачныя плённыя пошукі паэта — і ідэйна-тэматычныя, і ў галіне формы, мастацкіх сродкаў. Вось як выказвае паэт сваё творчае крэда:

**А калі доля быць паэтам,**
**то мерай спраў маіх і слоў**
**мне будзе не цнатлівасць кветак,**
**а важнасць спелых каласоў.**

Важкія каласы, як відаць з падборкі ў вераснёўскім нумары, павінны з цягам часу выспець і ў Паўла Шруба. За знешняй каструбаватасцю радка, непрыгладжанасцю сказа бачыцца сур'ёзная грамадзянская занепакоенасць, боль сэрца. На агульным «вясковым» фоне маладой паэзіі асаблівую каштоўнасць набывае зварот П. Шруба да праблем горада.

# СЯСТРА ЦІ СЛУЖКА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

Ты ўжо ведаеш пра пісьменнікаў увогуле непадуладных сферы ўздзеяння крытыкі, але, дзякуй богу, пішуць пра іх старэйшыя, табе ж пагражае падобная небяспека толькі ў будучым, ад сяброў і равеснікаў, сённяшніх маладых паэтаў і празаікаў. Падрыхтуйся, надрукаваўшы адмоўную рэцэнзію на якогась аўтара, адказаць на непазбежныя пытанні: «Чаму ты пра мяне так, а той гэтак? І чаму пра кнігу куды слабейшага аўтара пішуць станоўча?» Бо з'яўленне адмоўнага водгуку ў нас — выпадак, недарэчнасць, падзея, і ўспрымаецца такі водгук «як замглёнае літаратурнай тэматыкай сутыкненне асабістых непрыхільнасцей» (С. Дубавец), ледзь не як асабістая абраза.

Як жа быць тады са слушнымі патрабаваннямі да крытыкі, каб яна вучыла лепш разумець літаратуру не толькі чытача, але ў чымсьці і самога пісьменніка? Аўтарытэт і павага да крытыкі немагчымыя, пакуль загадзя вядома, што і пра каго яна скажа, і што, пра каго не скажа ніколі.

Кожны літаратар мае права выказаць свае крытычныя заўвагі, нязгоднасць, калі ў яго ёсць на гэта нейкія абгрунтаваныя мастацкія перакананні і асабістая сістэма вымярэння, якімі вытлумачваюцца нязгода і крытычнае стаўленне. Адным словам, калі ёсць не прыватныя, а творчыя падставы, тады гэтая крытыка заўсёды патрэбная і карысная, хаця неабавязкова канчатковая і знішчальная.

З якой прычыны камусьці крыўдаваць на Тамару Чабан за папрокі ў суб'ектыўнасці і безапеляцыйнасці, гарачлівасці і «выказванні спрэчных меркаванняў як неабвержных ісцін», калі сама яна імкнецца ў сваёй творчасці менавіта да аб'ектыўнасці, аргументаванасці і самавітай стрыманасці выказванняў? Ці магла яна ў такім разе не заўважыць нейкіх іншых памкненняў, не да «шчырай і ціхай размовы», не да «адчування асабістай віны»?

Іншая справа, што з ёй можна не ва ўсім згадзіцца, зноў жа, з пункту гледжання іншых мастацкіх перакананняў, іншай сістэмы вымярэнняў. Бо ненатуральна ў маладосці не мець гарачлівасці і свядомай суб'ектыўнасці, а валодаць выверанай сістэмай ацэнак (калі яна ўвогуле магчымая) і імкнуцца да ціхай размовы. А як пазбавіцца ад выказвання спрэчных меркаванняў як неабвержных ісцін? Толькі суцэльным манаграфічным цытаваннем, а лепш за ўсё — і зусім маўчаннем. Альбо пераказваць, пераказваць увесь артыкул нейкія і нечыя меркаванні і ісціны, а ў двух-трох уласных месцах пазначыць: на маю думку, мне здаецца і г.д.

Калі ўжо нешта пішаш, то павінен шчыра і да канца верыць у слушнасць таго, што пішаш, нават калі для іншых гэта спрэчна і гэта можна абвергнуць. А колькі ў нас у літаратуразнаўстве і крытыцы пішацца бясспрэчнага і неабвержнага, з чым не хочацца ні спрачацца, ні абвяргаць, ды і чытаць не хочацца: усё беспрадметна-правільна, сумна, нецікава.

Але клопат і трывога Т. Чабан зразумелыя і небеспадстаўныя: наша літаратура занадта шмат заплаціла калісьці за безапеляцыйнасць і валюнтарызм у крытыцы.

Каб скончыць тэму «крыўдзіцеляў і пакрыўджаных», думаю, не будзе памылкаю запэўніць чытача, што сама Т. Чабан таксама не пакрыўдзіцца, калі, напрыклад, заўважыць ёй, што «жаданне С. Дубаўца знайсці ў жанры эсэ лекі ад усіх крытычных хвароб» яна ўспрыняла аднабакова і спрошчана. Не прапаноўваў С. Дубавец эсэ як «універсальны жанр», размова ішла хутчэй пра эсэізацыю стылю крытыкі: стылю артыкулаў, інтэрв'ю, рэцэнзій і г.д. Дарэчы, гэтая эсэізацыя стылю ўсё больш выразна праяўляецца ў беларускай крытыцы апошніх гадоў як аб'ектыўны, незалежны ні ад чыіх пажаданняў працэс. І (ці не парадаксальна?) адзін з яскравых прыкладаў гэтага — рэцэнзія Т. Чабан «Дыялог з юнацтвам» на зборнікі «Маладыя галасы» і «Вусны».

...А паэты і празаікі, сябры і равеснікі маладога чалавека выдалі між тым свае першыя зборнікі ў серыі «Першая кніга празаіка» альбо «Першая кніга паэта». І зараз да іх адчування вартасці і патрэбнасці сваёй справы далучылася адчуванне канкрэтнасці і матэрыялізаванасці зробленага. Ім таксама прыйшлося сутыкнуцца, акрамя літаратурных праблем, з праблемамі калялітаратурнымі, але зусім не ў такой ступені, як маладому крытыку, што рызыкуе трапіць у іх палон пажыццёва.

І паўстане, акрамя небяспекі аб'ектыўнага, знешняга характару, перад ім яшчэ небяспека ўнутраная, суб'ектыўная, якая зыходзіць ад яго самога і пераадолена можа быць толькі яго ўласнымі сіламі і розумам. Гэта небяспека творчага застою, статычнасці навукова-мастацкай эвалюцыі, трафарэтнасці мыслення і выяўлення. Вось ты, здольны, а магчыма, і таленавіты, шмат пішаш, друкуешся і няшчадна эксплуатуеш свае прыродныя здольнасці: яны здаюцца табе невычэрпнымі і назаўсёднымі для таго, каб тры-

Добра, што П. Шруб не замыкаецца на урбаністычнай тэме, што гэтак жа трывожна, усхвалявана гаворыць ён пра бездапаможнасць прыроды перад чалавекам, што ёсць у яго і сур'ёзная філасофская лірыка. Магчыма, паэт трохі згушчае змрочныя фарбы, але гэта гучыць як папярэджанне, як заклік залячыць усе болькі, пакуль «у атручаных нетрах» жыве апошні журавель.

В. Шніпу не вельмі ўдаецца, як мне падалося, інтымная лірыка, аднак у распрацоўцы іншых тэм ёсць поспехі. Так, элементы псіхалагізму ёсць у вершы «Кастусь». Ствараючы вобраз героя, адзінокага немаладога чалавека, аўтар паказаў сваё ўменне валодаць мастацкай дэталлю. Паэта трывожаць праблемы сучаснай вёскі, адчужэнне паміж людзьмі, і яго занепакоенасць перадаецца чытачу.

Л. Галубовіч ужо стала зарэкамендаваў сябе як паэт. Думаючы над пытаннем: «У чым жа ты, існасць жыцця?», вырашаючы яго ў шэрагу вершаў, ідучы да разумення яго праз пакаянне, Л. Галубовіч стварае багаты ўнутраны свет лірычнага героя. Увогуле паэту ўласціва філасафічнасць мыслення, яна прысутнічае і ў сур'ёзным, драматычным вершы «Удовы», і ў споўненай здаровага, шчырага аптымізму замалёўцы «Студзень. Слуцкі базар», і ў лірыцы кахання. «Маладосць» прадставіла многа вершаў пра маці, але сярод іх верш Л. Галубовіча вылучаецца асаблівай сілай пачуцця:

**Першая песня — маці,**
**Другая песня — каханай,**
**Трэцяя песня — дзіцяці,**
**Чацвёртую — сам шукаю.**
**І першы мой плач — па маці.**
**І плач апошні — па маці.**

А сярод дэбютантаў хацелася б адзначыць і П. Дзмітрука, які ўпершыню выступіў у «Маладосці». У яго актыўная жыццёвая пазіцыя, нестандартнае мысленне, таму выразна бачыцца перспектыва, і я асабіста буду з нецярплівасцю чакаць яго новых выступленняў у друку.

Пэўныя творчыя поспехі ёсць у А. Вішнеўскага, Ж. Пахадні, А. Бабаеда, У. Сіўчыкава, А. Жука, У. Мазго, хаця многія з іх, мне думаецца, яшчэ знаходзяцца ў стадыі вучнёўства, на цярністай дарозе пошукаў і спасціжэнняў.

**Усевалад РАГОЙША,**
**студэнт БДУ імя У. І. Леніна.**

мацца на належным крытычным узроўні. Ты ні пра што не задумваешся, бо для гэтага трэба спыніцца і нейкі час памаўчаць, ты ні пра што не клапоцішся, акрамя дня і сябе сённяшняга, і паступова спісваешся, «здумваешся». Багдановіч, Гарэцкі, Бабарэка, Замоцін і Барычэўскі, заходнебеларускія крытыкі так і не прыцягнулі да сябе тваю лянотную і бяздзейсную ўвагу, непатрэбным табе ўбачыўся нацыянальны і агульнасусветны крытычны вопыт, і ты спяшаешся бяздумна згадзіцца з цалкам негатыўнай ацэнкай структуралізму і «новай крытыкі», напрыклад, бо табе нязручна і дрэнна шукаць там нейкія станоўчыя, дзейсныя моманты, рацыянальнае зерне.

«Сястрой ці служкай давodзіцца крытыка мастацкай літаратуры?» — для цябе такога пытання не існавала, ніколі ты над ім не задумваўся, бо ты сам — служка сваёй абмежаванасці і ўхваленай іншымі самазадаволенасці.

Дык ці не мы самі ператвараем крытыку з «сястры літаратуры» ў яе старанную і недалёкую служку?

**Валерый ЛІПНЕВІЧ**




АДНА З АСНОЎНЫХ якасцей класічнай, «узорнай» асобы — шматмернасць яе свету. Але ў натуральным спалучэнні з цэласнасцю. Гэта мае дачыненне і да Максіма Багдановіча, з'явы ў беларускай паэзіі надзвычайнай. У розныя часы яго сучаснасць тлумачылася па-рознаму. І сёння здаецца, што ён усё яшчэ з будучыні. І першнаперш як чалавек, як асоба пушкінскага кшталту, дадзеная наперад як эталон для ўсіх нас.

А ў чым жа рэальны, дзейсны набытак паэзіі, мастацтва наогул? Менш за ўсё гэта словы, гукі ці фарбы. Уплывае на культуру, на развіццё чалавецтва наогул толькі непаўторны свет асобы, які назаўжды пераходзіць ва ўсеагульную скарбніцу. Словы, гукі, фарбы — толькі сродкі для выяўлення асобы. Безумоўная каштоўнасць — яна сама.

І як перадаць яе, не згубіць у словах другой мовы, часта падманліва блізкіх да падрадкоўніка, але такіх далёкіх ад непаўторнага водару мовы арыгінала? Тым больш, што сам пераклад — хочам мы гэтага ці не — заўсёды вынік узаемадзеяння асоб і светапоглядаў, культур і часоў. На гэтым свеце нічога нельга паўтарыць — як бы мы ні стараліся. Таму пераклад — заўсёды сплаў, трываласць якога залежыць ад таленту, ад жару душы перакладчыка.

Менавіта пераклад сведчыць, што літаратура—справа агульная. Возьмем Шэкспіра. Армія крытыкаў і перакладчыкаў шліфуе, прасвятляе грані яго таленту, удакладняе яго праблемы, штодня робіць жывым і патрэбным. Шэкспір і Пастарнак, Гётэ і Сёмуха, Лорка і Барадулін — спалучэнні натуральныя.

Калі бракуе таленавітасці, губляецца шматмернасць твора, і тады задзірае нос педантычны і плоскі падрадкоўнік. Ілюзія шматмернасці ствараецца тады «брыгадным падрадам» — кожны патроху. Аб чым піша паэт — збольшага, тэматычна чытач здагадваецца. Але чаму ён класік ці нават геній — не разумее. Бо знікае самае галоўнае — непадзельнасць асобы.

Стадыю «брыгаднага» перакладу М. Багдановіч таксама прайшоў. Гэты метад прываблівае перакладчыкаў адсутнасцю ўсялякай рызыкі. Застацца сам-насам з класікам — тут ужо патрэбна смеласць.

Даць цэласнага паэта, захаваўшы як мага больш граней яго таленту, — такую мэту паставіў сабе Браніслаў Спрынчан. У адносінах да М. Багдановіча — гэта першая спроба. Б. Спрынчан не навічок у паэзіі, а таксама ў галіне перакладу. Яго тэмперамент, бачанне свету значна адрозніваецца ад тэмпераменту і светаадчування М. Багдановіча. Тым не менш, гэта адрозненне двух дрэў, якія ўзняліся з адной глебы — са здаровага, народнага бачання свету.

«Вянок» М. Багдановіча ў перакладзе Б. Спрынчана («Юнацтва», 1985), дзякуючы адзінству стылю, успрымаецца надзвычай цэласна і вельмі па-сучаснаму. Упершыню пераклад падкрэсліў і прадоўжыў многія вартасці арыгінала. Але галоўнае — упершыню даў адчуванне «класічнасці», мастацкай моцы і своеасаблівасці паэта.

Разам з тым прысутнічае ў перакладах і асоба перакладчыка. Безумоўна, Б. Спрынчан мае рацыю падкрэсліць, што гэта «мой Багдановіч». Асабліва ў такіх вершах, як «Слуцкія ткачыхі», «Касцёл святой Ганны ў Вільне», «Перапісчык». Гэтыя вершы гучаць на рускай мове так, як быццам яны і былі напісаны па-руску.

Але ёсць меркаванне (В. Тарас, «Литературное обозрение», № 3, 1985), што падобная мадэрнізацыя — недапушчальная вольнасць, нават недахоп перакладчыка. У вершы «Слуцкія ткачыхі» бачаць гэтую мадэрнізацыю ў сучаснай рыфме, у змене памеру, у самой замене слова «ўзялі» на «прывялі». Пры такім падыходзе, які існуе, мусіць, толькі ў дачыненні да перакладаў з беларускай (таму ў большасці яны такія невыразныя), губляецца галоўнае — паэзія, якая ўзнікае, нягледзячы на ўсе гэтыя «вольнасці». Пераклады Б. Спрынчана маюць права на жыццё таму, што яны жывыя. І, зразумела, не адмаўляюць пры гэтым магчымых будучых перакладаў. Бо арыгінал невычарпальны і дае прастору для розных сістэм перакладу, для самых розных перакладчыцкіх канцэпцый.

Б. Спрынчан працаваў над перакладамі М. Багдановіча даволі доўга. «Вянок» у яго перакладзе сведчыць аб розных ступенях еднасці паміж аўтарам і перакладчыкам. З цягам часу перакладчык трывала ўвайшоў у свет паэта, прыйшоў да большай сугучнасці з арыгіналам. Ён не адмаўляецца ад сатворчасці, але вядзе яе ўжо ў напрамку самога Багдановіча. Можна сказаць, што спачатку перакладчык вёў спрэчку з аўтарам — і даволі паспяхова, — а зараз уважліва слухае яго.

У выніку з'явіліся такія выдатныя на сённяшні дзень пераклады, як «Мадонны», «Вераніка», «Мяжы», «Ліст», «Варона і чыж», «Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык». Пушкінскі «кшталт» асобы М. Багдановіча ўпершыню адчуваецца менавіта ў гэтых перакладах Б. Спрынчана. А верш «Вераніка» гучыць і зусім па-пушкінску.

Як лёгка заўважыць, лепш адчувае сябе перакладчык менавіта на лірыка-эпічнай, апавядальнай глебе. Таксама ўпэўнена адчувае сябе ён у вершах-думках, — з адным, але моцным пачуццём, наогул, ва ўсіх тых, дзе ёсць апора на трывалыя прыкметы рэчаіснасці. Але М. Багдановіч — гэта яшчэ і пяшчотныя акварэлі, і мройныя летуценні, і тонкія пранізлівыя пачуцці. На гэтай глебе перакладчык адчувае сябе не так упэўнена і калі-нікалі «прастуе нацянькі».

Вось, напрыклад, верш «Актава»:

Как сильный реактив,
который проявляет
В письме, дошедшем к нам
из глубины времен,
Незримые слова, — так
темень заливает
Зеленый, словно лёд,
холодный небосклон.
И за звездой звезда из
бездны проступает,
Как смысл, что в письменах
вселенной заключен.
Привет, родимые!
Сильней, ясней горите
И мне о красоте природы
говорите!

Добры, халаднавата-ўраўнаважаны верш. Але калі мы параўноўваем з арыгіналам, то адчуваюцца значныя, нават прынцыповыя страты. Спачатку тое, што ў першай страфе губляецца асацыяцыя «словы — нябожчыкі», здаецца не вельмі істотным. Але кранальны чалавечы сэнс, які прысутнічае ў другой страфе («Маленькіх, мілых зор дрыжачы срэбны пыл»), у перакладзе знікае. «Нябожчыкі — словы — зоркі» — сувязь разбураецца. Актава астывае. А ў прысутнасці гэтага цяпла — не жару, не, менавіта чалавечага кранаючага цяпла — адзін з сакрэтаў абаяльнасці асобы паэта.

Б. Спрынчан — перакладчык нетаропкі, удумлівы. Але на фоне яго безумоўных дасягненняў сям-там сустракаюцца і пралікі. Улічваючы, што кніга будзе яшчэ не раз перавыдавацца, скажу пра іх болей. Нельга лічыць удачай пераклад першага і апошняга верша кнігі. Гэта простыя вершы, але з тых, што не вельмі паддаюцца перакладу. Мусіць, іх трэба перакладаць у апошнюю чаргу, калі перакладчык па-сапраўднаму абжывецца ў свеце М. Багдановіча. «Найти приятно» і «любіць патрапіць» (верш «Вы, хто любіць патрапіць...») вельмі розныя рэчы. У першым выпадку мяшчанская любоў да прыемнага, у другім — паэтычная прага нечаканага. «Трепетные в дни цветенья» — занадта квяціста для М. Багдановіча. Таксама і апошні верш кнігі губляе свой тонкі водар і гучыць у перакладзе так:

В последний час мой душа
не сникла:
В сторонке светлой, у синей
бухты
Не одинок я, со мною
книга —
Изданье пана Мартина
Кухты.

Памятаеце ў М. Багдановіча:

У краіне светлай, дзе я
ўміраю,
У белым доме ля сіняй
бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна
Кухты.

Проста, дакладна, маляўніча. Самыя неабходныя словы. Ды і аб чым гаварыць і каго пераконваць у аптымізме? Суровая, мужчынская канстатацыя: я ўміраю. Простае, ціхае слова ўражвае больш, чым крык ці штучная бадзёрасць. У паэта столькі годнасці, суму, любові да жыцця, да яго прыгажосці, што міжволі ўзнікае моцнае пачуццё суперажывання, разумення ўсёй трагічнасці чалавечага лёсу.

Безумоўна, паэт яшчэ не раз пройдзецца па сваіх перакладах — сёе-тое паправіць, нешта ўдакладніць, пашырыць. Тое, што Б. Спрынчан умее працаваць, сведчыць і яго — ужо не першы — пераклад «Раманса». Пакуль ён адзіны з перакладчыкаў, які здолеў цалкам захаваць меладычную структуру верша — пераклічку першага і чацвёртага радка ў кожнай страфе. Але, мусіць, «Раманс» належыць да тых вершаў, якія немагчыма перакласці: бо рускі пераклад павінен—ні больш ні менш — стаць рускім рамансам. А да гэтага пакуль што яшчэ вельмі далёка.

Увогуле, можна сказаць, што спроба Б. Спрынчана даць М. Багдановіча як цэласнага паэта ўдалася. Безумоўна, не ўсе грані класічнай асобы паэта яскрава высвеціліся ў перакладзе, але ўпершыню «класічнасць» М. Багдановіча адчулася і ў рускіх перакладах. Гэта заўважыў і чытач. Выдадзеная масавым тыражом, кніга паціху знікла з паліц. Можна згадзіцца з В. Рагойшам, аўтарам прадмовы, што «ў большасці выпадкаў дасягнута такое шчаслівае адзінства паэтычнай і сэнсавай дакладнасці, якое дазваляе лічыць пераклады Б. Спрынчана новым словам у сучасным рускім прачытанні «Максіма Багдановіча».

...Калі часам апынецеся ў Ялце і вам надакучыць бясконца «смажыцца» і купацца, можна сесці на аўтобус № 15. Ён давязе вас да цэнтральных гарадскіх могілак. Там, кіруючыся па стрэлках у бок магілы М. Бірукова, падыдзеце да магілы М. Багдановіча — яна побач. Трохі пастаіце. Прачытаеце на шэрай сціплай пірамідцы: «Беларускі пісьменнік і паэта. Радзіўся ў Менску, 27 лістапада 1891 года, Памёр 12 мая 1917 года ў Ялце».

Перачытаеце. Можа, прыгадаеце які радок. І падумаеце аб тым, што і праху яго пара на Радзіму, бліжэй да свайго народа, да якога, як усякі сапраўдны паэт, прыйшоў ён з будучыні — аднойчы і назаўсёды.

# КРЫНІЦА ЖЫВОЙ ВАДЫ

## ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА

**Размовы пра неабходнасць стварэння ў Мінску літаратурнага тэатра вядуцца досыць доўгі час. Неаднаразова ўзнікала гаворка на гэтую тэму на рознага роду пісьменніцкіх сходах, з'яўляліся публікацыі ў друку. Але мала хто ведаў, што энтузіясты гэтай справы, аб'яднаныя Уладзімірам Матросавым (мастак па прафесіі, ён працуе намеснікам дырэктара Дома літаратара), у размовах часу не губляюць—працуюць і настойліва рыхтуюцца да выхаду на сцэну.**

**Нарэшце—доўгачаканая падзея. На сцэне Дома літаратара —прэм'ера.**

**«У родным краю ёсць крыніца жывой вады»—такую гэты спектакль атрымаў назву, удакладненую падзагалоўкам: «Максім Багдановіч і час». Удакладненне вельмі істотнае.**

**З першых жа рэплік, што прагучалі са сцэны, перапоўненая зала, у якой пераважала моладзь, застыла ў напружаным маўчанні. Спектакль адразу захапіў усіх сваёй шчырасцю, адкрытасцю, смеласцю, нават рызыкоўнасцю. Надзвычай па-сучаснаму загучалі ў ім вершы і выказванні Максіма Багдановіча, цытаты з твораў Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча... Кожны разумеў, што крыніца жывой вады—гэта родная мова, гэта культура шматпакутнага і гераічнага народа, якую ўсім нам трэба любіць, шанаваць, аберагаць.**

**Добра выверная рэжысёрская партытура як нельга лепш спрыяла выяўленню галоўнай думкі і мэты літаратурнай кампазіцыі. Гэтаму ж было падпарадкавана сціплае, але дакладнае афармленне. Высока над сцэнай—партрэт Багдановіча, два белыя палотнішчы, што спадаюць ад яго ўніз, як буслiныя крылы, рухомая трыбуна...**

**Тут варта адзначыць, што і рэжысёр, і мастак спектакля, і аўтар кампазіцыі—усё той жа У. Матросаў. Выканаўцы—артысты розных тэатраў: Анатоль Жук з ТЮГа, Алесь Лабанок з Акадэмічнага тэатра імя Янкуба Коласа, Ігар Мікалаеў і Валерый Шушкевіч з Рускага тэатра імя М. Горкага. Гэта цікавы калектыў творцаў-аднадумцаў, выпрабаваны сумеснай працай над паэтычнымі пастаноўкамі па творчасці Я. Купалы, М. Танка, В. Хлебнікава.**

**Многія гледачы, пакідаючы Дом літаратара, выказвалі пажаданне, каб карысная і цікавая справа не абмяжвалася адным паказам. Хочацца спадзявацца, што з гэтага можа нарадзіцца літаратурны тэатр.**

**Артур ВОЛЬСКІ.**

## ПАЭЗІЯ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ






### Фрагменты з паэмы

*Гэту паэму пачаў пісаць я ў Брагіне, куды паехаў пад сярэдзіну мая мінулага года, не цямячы толкам, для чаго еду, што мне там трэба. Ведаў толькі, што павінен ехаць, каб не быць староннім, самому ўсё ўбачыць. І я шмат чаго ўбачыў, але паэмай яно не стала. Не далося. Матэрыял разбіваў форму верша, як чыгунная гіра шкляны акварыум.*

*Тады я паехаў з кінагрупай здымаць дакументальны фільм. Мы шмат чаго наздымалі, але фільмам яно не стала, бо ў фільме засталося толькі тое, за што ўзнагароджваюць...*

*Але ў трагедыях шчаслівага канца не бывае. Са шчаслівым канцом — гэта іншы жанр.*

*Знойку ўзяўшыся за паэму, я сутыкнуўся з феноменам тэхнакратычнага мыслення з ягонай абстрагаванасцю, элітарнасцю — і прагай пераступіць любую мяжу ў імя чыстага пазнання, пазнання самога па сабе. І пераканаўся, што тут можна пераступіць мяжу гранічную. Азартна не спыніцца...*

*Колькасць магчымых ахвяр аварыі мае значэнне, як мае значэнне кожнае чалавечае жыццё. Мяне не палохаюць песімістычныя прагнозы, але і не супакойваюць аптымістычныя. Бо тут ёсць нешта большае. Бо калі ад гэтага загіне нават адзін-адзіны чалавек, то ён загіне ад той небяспекі, якая вісіць над усімі пяццю мільярдамі.*

*Пра гэта паэма «Зона», фрагменты з якой прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа».*

*АЎТАР.*

Нават не мроіцца рай...
Дзеля ўсяго святога,
Божа, не дай нічога,—
Толькі зратуй мой край.

Мухаю назалю
Вуху твайму, усявышні!

...Костачкай вішні
Выплюне космас Зямлю.

Кіне растрыга строга
Вокам
        на ход падзей:
«Што гэта ты
да бога?..»
— А да каго
з людзей:
«Жабрацкую торбу дай —
Душою не дай ажабіцца...»

Бадай бы ён быў, бадай
Было б каму жаліцца.

Зрэзалі боскае вуха —
Жах да нябёс прырос.

...Наша змаганне з духам
Няўжо ўсур'ёз?

Цясней рады, атэісты!
Рады святых парадзелі.
На небе стэрыльна-чыста.
Аніякай надзеі.

Галактыка — як астрог.
Які там да д'ябла бог!
Пісанняў
        гартай
                тамы:
Бог будучых нашых дарог —
Атамны.

Я з ім пад Брагінам снедаю.
На ўсю акругу нас
Трое.
Ён бог, бо ніхто не ведае,
Што ён такое;
Бо да нашага з ім стала
Па бязлюдным гасцінцы
Паляшучка старая прыйшла
І прынесла гасцінцы;
Бо нестала ў яе ні хаціны,
Ні вады сваёй, ні зямлі;
Бо прыйшла яна з вёскі былой
                                Сабалі,
А гасцінцы яе — пухліны:
Два папіны,
Што яблыкамі былі.

Генетыкі не падманулі.
Папін
        пухлінамі
Дулю
Нам на сняданак склаў.
— Частуйцеся,— кажа
                                бабуля, —
Чым бог паслаў.

На ёй сівізна, як завея.
А вочы яе збранзавелі:
Пагляд — з пустаты.
«Хто гэты пагляд зразумее?!.»
Адказвае бог:
«Не ты».

Ён думкі мае чытае,
Ён знае, што мне прысніцца.

Ды нечага ён чакае
І некага ён баіцца,
Хоць голас яго — жалезны,
Пагляд ягоны —сталёвы,
Касцюмчык — замежны,
Гадзіннік — фірмовы...
...Хоць ён прада мной —
                                непазбежны,
А я перад ім — выпадковы.

— Пра што мы з табой
                                талкуем?—
Надкусвае бог папін.—
Пра якую такую
Зорку Палын?

А ў бабулі кіёк жабрачы...
Дзе захоча, там заначуе...
Глядзіць яна — як не бачыць,
Вяшчуе — ніхто не чуе:

«Яна ўзыдзе аднойчы,
Промні ў небе раскіне,
Спапяляючы вочы
Чалавечай гардыні.
Сярод дня, сярод ночы,
Сярод енку людскога
Яна ўспыхне аднойчы —
Пылам стане дарога.
Стане каменю горка,
Мёртвы ўсцешыць жывога,
Калі выспее зорка
Палыновага бога».

Бабуля кажа:
— Пайду
Па свеце шукаць сям'ю.
Тут браць не даюць ваду.
Хаваюць зямлю ў Зямлю.
У вёсках здзічэлі куры,
Спусцелі ўсе чыста хаты...

Я ў бога пытаю: «Пакурым?..»
Ён кажа: «Не я вінаваты».

«А хто?»— запыталі вада і
                                зямля.
«Не я!..»— адгукнулася рэха
                                здаля.

## ПРОЗА

Уладзімір СЦЯПАН

# ГАДЗІННІК ЗА СЦЯНОЙ

*АПАВЯДАННЕ*



КАЛІ ПРЫСЛУХАЦЦА да гукаў, што напаўняюць кватэру, то можна пачуць, як за сцяной цікае гадзіннік. Звонка і няспешна падаюць буйныя кроплі, аднастайна і бесперапынна бяжыць час.

Дзінь!-Бім!-Бом!

Металічна хрусткі гук напаўняе двухпакаёвую кватэру лёгкім вібруючым звонам... Ізноў буйныя кроплі працінаюць сцены і трапляюць у пакой, дзе за круглым сталом, на якім раскладзены падручнікі і сшыткі, сядзіць хлопчык. У кватэры хлопчык — вучань другога класа, і суседка — якая даўно на пенсіі, бацькі хлопчыка на працы. У вузкім доўгім калідоры крокі. Цяпер адчыняцца дзверы і на парозе з'явіцца баба Вера.

— Валодзька, ты сабраўся ў школу? Ужо палова першай.

Хлопчык загортвае сшытак.

— Ты што, не чуеш?

— Чую.

— То збірайся, калі чуеш.

Гэта заўсёдны дыялог. Старая суседка ніколі не заходзіць у пакой, яна сваім ціхім голасам размаўляе з-за парога.

— У мяне яшчэ ёсць час, — кажа хлопчык.

— У цябе ёсць, але трэба спяшацца, а то яго не будзе.

— Будзе, — спакойна кажа Валодзька.

Баба Вера паварочваецца і павольна аддаляецца ў прыцемкі калідора.

Шуміць у жалезнай ракавіне вада, звякае чайнік, дзынькае посуд.

Хлопчык загортвае падручнік, адкрывае партфель. Тонкія сшыткі складаюцца ў кардонную папку, завязваюцца матузкі, і папка ставіцца ў партфель. На тым месцы, дзе яна ляжала, заўсёдная запіска, якую кожную раніцу пакідае маці. Хлопчык перачытвае друкаваныя літары, зашчэплівае партфель.

У кухні два сталы, два шкапчыкі, дзве паліцы з посудам і пліта на чатыры фаеркі. Адна фаерка ўключана — на ёй грэецца чайнік. Хлопчык ля свайго стала ўздымаецца на дыбачкі і па чарзе падымае накрыўкі каструль. Потым налівае кубак кампоту, дастае са шкапчыка батон. Увесь гэты час баба Вера назірае за ім.

— А суп, Валодзька?

— Не хачу.

— Чаму?

— Я ўчора еў суп.

— Дык гэта было ўчора.

— Прыйду са школы і буду есці разам з усімі.

Так яны размаўляюць штодня. Задаюцца прыкладна адны і тыя ж пытанні, на якія даюцца адны і тыя ж адказы.

Чайнік выдыхвае пару, сіпіць, накрыўка пачынае падскокваць. Баба Вера выключае пліту. Са шкапчыка дастае стракатую ў сланах бляшанку і засыпае ў імбрычак лыжку заваркі, з паліцы здымае вялікі кубак з адбітай ручкай.

Робіцца ціха. Лісце вяртаецца назад, застывае на жоўта-зялёнай сцяне.

— Ці чуеш, Валодзька?

— Што?

— Гадзіннік. Хутчэй збірайся.

— Я ўжо апрануўся, — хлопчык бярэ партфель і выходзіць у калідор.

— Вазьмі, па дарозе з'ясі.

— Дзякуй.

— Валодзька, зайдзі!

Ён палохаецца, пачуўшы голас бабы Веры.

— Добры дзень, — кажа хлопчык з парога.

Баба Вера ляжыць на высокім ложку. Яе твар цьмяна вымалёўваецца на вялікай падушцы.

— Праходзь, праходзь, — кажа яна.

У куце, ля акна, фікус у драўляным вазоне. Яго тоўстыя лісты здаюцца цыратавымі і цяжкімі. Другі кут займае гадзіннік, вышынёю роўны з шафаю. Малочны цыферблат аздабляе вянок пераплеценага між сабой лісця, акенца, за якім хістаецца бліскучы дыск маятніка, аблямоўваюць точаныя паўкалоны. Па вуглах гадзінніка — тоўстыя вітыя слупы, на якіх трымаецца арка і надае гадзінніку ўрачыстасць і завершанасць.

— Валодзька, запалі святло.

Хлопчык толькі цяпер заўважае, што ў пакоі суседкі цемнавата. Ён паварочваецца і націскае на рыфлёны ражок выключальніка. Абажур, які здаваўся бляклым і пыльным, робіцца ружовым.

— Баба Вера, я ўключыў святло.

— Дзякуй, сядай на канапу.

Хлопчык уладкоўваецца на канапу, пакрытую клятчастай посцілкай.

— Нават пабудзіць цябе не змагла...

— Я сам падняўся.

Побач з высокім ложкам — крэсла, на якім тэрмометр без футарала, пачак з таблеткамі і паўшклянкі вады.

— Можа, вам што прынесці?

Пытанне доўга застаецца без адказу.

— Нічога не трэба...

— На вуліцы дождж, Валодзька.

Шкло акна чыстае. З-за кактусаў у высокіх вазонніцах відаць толькі неба, роўнае і светла-шэрае. Валодзька выходзіць на балкон. Два галубы палохаюцца, лапочуць крыламі і ўзлятаюць.

— Баба Вера, зноў галубы на балконе, — кажа ён і сочыць птушак, якія ляцяць праз двор да суседняга дома.

— Што, дождж перастаў?

— Не, я кажу, галубы прыляцелі.

— Я ведала, што будзе дождж, з вечара ногі балелі.

— Дажджу няма. Перастаў.

— Апранайся, а то спознішся.

Вуліца і школьная пляцоўка пабліскваюць калюгамі. На чорны асфальт дрэвы кідаюць яркую лістоту. Галубы вяртаюцца і садзяцца на мокрыя парэнчы.

— Вось і птушкі прыляцелі, — старая паказвае на іх. — Трэба пакарміць...

Валодзька ў сваім пакоі апранае школьную форму.

Дзінь!-Бім!-Бом!

Гучаць звонкія і ясныя ўдары. Хлопчык слухае, як металічны гук завісае, ускалыхвае паветра. Па сценах пакоя ляцяць срэбныя кляновыя лісты. Яны падаюць, павольна перакручваюцца, з лёгкім звонам чапляюцца вострымі рожкамі за шурпатасці тынкоўкі...

У руцэ хлопчыка яблык. Учора была цукерка, сёння яблык, заўтра... Валодзька разумее, што сённяшні дзень паўторыцца.

Суседка прыпыняе яго, цёплай далонню прыгладжвае непрычасаныя валасы.

— Надзень кепку. На вуліцы дождж.

— Я ведаю, што дождж... — Ён не дагаворвае і адчыняе цяжкія калідорныя дзверы.

Хлопчык не адкрывае вочы і лічыць удары гадзінніка. Пасля дзевятага ўстае з ложка. На клёнах, што ўздымаюць свае шаты да трэцяга паверха, свіцяцца лісты. Яркім кругам, крыху замглёная, падобная да адпаліраванага дыску, вісіць восеньскае сонца. На сценах пакоя хістаюцца цені галін — пакой нагадвае парк, срэбныя лісты, зробленыя па трафарэту, пабліскваюць.

На цыраце круглага стала запіска: замест «суп» напісана «каша», а замест «кампот» — «малако».

Па дарозе на кухню хлопчык спыняецца ля дзвярэй суседкі, здзіўлены цішынёй. У яе пакоі ціха, з кухні яе таксама не чуваць. У гэты час баба Вера звычайна гатуе, ці палівае кактусы... У пад'ездзе чуюцца галасы, у трубах шуміць вада, але ўсе гэтыя гукі аб'ядноўвае і перамагае гадзіннік, што цікае за дзвярыма суседкі.

## ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

# Музычная эстрада: набыткі, страты, надзеі

**Уладзімір РЫЛАТКА**

**Некалькі месяцаў назад мы змясцілі ліст чытача Л. Дубоўскага «Цяжкія ўздыхі... беларускай эстрады» (гл. «ЛіМ» за 20.02.87 г.). Там, як вы, мабыць, памятаеце, закранаўся шэраг пытанняў, звязаных з развіццём эстрадных жанраў у беларускай музыцы. Тыя пытанні мы, услед за аўтарам ліста, адрасавалі работнікам Міністэрства культуры БССР. І атрымалі — што само па сабе радуе — не дзяжурны афіцыйны адказ, а разгорнутую карэспандэнцыю.**

**Такім чынам, сёння размову пра эстраднае мастацтва рэспублікі вядзе ў «ЛіМе» начальнік Упраўлення тэатраў і музычных устаноў МК БССР У. Рылатка.**

ЗАКЛАПОЧАНАСЦЬ станам беларускай музычнай эстрады выказвалі і выказваюць многія. Таму ліст Л. Дубоўскага ўспрымаецца як своечасовая і слушная публікацыя «ЛіМа», нягледзячы на тое, што з пасобнымі яе высновамі варта было б і паспрачацца. Цікавасць да лёсу эстраднага мастацтва, наогул, заканамерная. Масавасць, даходлівасць гэтага жанру і надае яму прыцягальную сілу, і спараджае вядомыя ўсім «выдаткі жанру». Вось дзе ніва для размоў, меркаванняў, спрэчак!

Эстрада павінна быць прывабнай, эмацыянальна дзейснай і ні ў якім разе — нуднай. Яна вымагае куміраў і бясконцага абнаўлення. І ўсё ж, відаць, не можа існаваць без пэўнага эстэтычнага стрыжня. У беларускай эстрадзе, напрыклад, такім стрыжнем сталася песня (хаця поруч існуюць канферанс, арыгінальны жанр, эстрадны танец і інш.). За апошняе дзесяцігоддзе прыкметна пашырыліся, пабагацелі нашы песенныя абсягі, на якіх працуюць В. Вуячыч, С. Кульпа, Я. Еўдакімаў, «Песняры», «Верасы», «Сябры», «Чараўніцы», іншыя выканаўцы. З'явіліся на эстрадзе веступы рэнесансу народнай музыкі — малады і ўжо досыць вядомы ансамбль «Свята».

Гаворачы пра спецыфіку мастацтва эстрады, нельга не ўспомніць, што «жыве» яна на гаспадарчым разліку і знаходзіцца ў вечнай пагоні за публікай. Гаспадарчы разлік стымулюе яе рух, але ў той жа час, бывае, ператвараецца ў няўмелых ці сквапных руках у біч для мастацтва. Публіка (а значыць і прыбытак) — любой цаной! І пачынаецца патуранне патрэбам эстэтычна няразвітай аўдыторыі, і пранікае на эстраду пошласць. І тады, як ні парадаксальна, вымушаны суіснаваць пад дахам нашага філарманічнага дома высокі густ — і поўная яго супрацьлегласць, носьбіты і выхавацелі мастацкага густу — і спекулянты на глядацкім даверы.

Што адбываецца на практыцы? Спявак (або выканаўчы калектыў) сыходзіць з эстраднай арэны не тады, калі састарэласць, а то і недарэчнасць яго творчага аблічча, рэпертуару робіцца відавочнай для спецыялістаў, для дасведчаных аматараў музыкі, сапраўдных цаніцеляў жанру. А тады, калі на ягоныя канцэрты перастаюць купляць білеты ўсе катэгорыі гледачоў, сярод іх і самыя паблажлівыя, непераборлівыя. Толькі страта глядацкай цікавасці азначае крах эстраднага выканаўцы! І вось гэтая спецыфічная рыса эстрады спараджае фетышызм знешняй добрапрыстойнасці ў канцэртных арганізацыях, робіцца звыклым вымяраць духоўную каштоўнасць эстрадных праграм не з пункту гледжання высокай прафесіі, а з пункту гледжання высокіх фінансавых вынікаў.

Але ці варта духоўныя выдаткі нашай эстрады спісваць цалкам на рахунак канцэртных арганізацый?

Прыгадайма спакойную беларускую эстраду пятнаццацігадовай даўнасці. У яе даволі абмежаваны свет уварваўся тады новы дэмакратычны стыль масавай музыкі, на хаду змятаючы тых, хто спрачаўся наконт яе мэтазгоднасці. Хваля развіцця музычнай эстрады вынесла на грэбень папулярнасці вядомыя і цяпер калектывы — «Песняры», «Верасы», «Сябры». Той час быў часам зацвярджэння новай музычнай формы, узыходжання рок-музыкі, тэатралізацыі музычнай эстрады, абнаўлення беларускай песеннай мовы, звязанага ў вялікай меры з творчасцю І. Лучанка. Асвойваліся ў той час і новыя камерцыйныя перспектывы. Масавыя жанры «вывелі» эстраднае мастацтва на арэну спартыўных палацаў, і канцэртныя ўстановы з блаславення фінансавых органаў і органаў культуры пачалі ператварацца ў камерцыйныя арганізацыі, губляючы функцыі заканадаўцаў музычнай эстэтыкі. Менш рэнтабельныя эстрадныя жанры пачалі імкліва знікаць, затое з адпаведнай хуткасцю ўзрасталі валавыя паказчыкі работы філармоній і адлічэнні ў бюджэт.

Ужо на той час прабіваліся ў нашай музычнай эстрадзе парасткі сінкрэтычнасці — у спалучэнні паэтычнага слова, звернутага да сучасніка, эмацыянальнай адкрытасці выказвання, элементаў тэатралізацыі, мастацкага святла, пластыкі, незвычайнай атмасферы еднасці. (Успомніць хоць бы такія буйныя работы «Песняроў», як рок-оперы «Песня пра долю», «Гусляр»). Ды, на жаль, нашай эстрадзе не давялося зведаць эвалюцыю новага жанру.

Неаспрэчнае лідэрства захапілі ВІА. У канцэртным жыцці адбыўся камерцыйны «дварцовы пераварот». Неперспектыўныя эстрадныя жанры (канферанс, куплеты і г. д.) апынуліся ў цені. Затое з'явіўся народжаны неабходнасцю выконваць план па абслугоўванні сяла своеасаблівы тып канцэртнага калектыву — «сельская брыгада». Прыбыткі ад «вялікай» эстрады ішлі ў бюджэт, сельская ж брыгада павінна была працаваць рэнтабельна, выконваючы план па гледачу. І таму ў яе склад уключаліся так званыя «дзяшовыя артысты» (у літаральным і пераносным сэнсе): чытальнік, спявак, танцавальная пара, інструментальнае трыо. Яны, не шкадуючы сябе, не зважаючы на ўмовы надвор'я, на халодныя клубныя сцэны, на самаадчуванне, «рабілі план». Такія брыгады, кампенсуючы іх недахоп у Беларускай дзяржаўнай і Гомельскай абласной філармоніях, накіроўвалі на перыферыйныя сцэны нашай рэспублікі Масканцэрт, Ленканцэрт, Укрканцэрт. А планавыя паказчыкі павышаліся...

Камерцыйнае стаўленне да эстраднага мастацтва ў значнай меры парушыла гармонію развіцця жанраў. Дый наогул, вульгарнае скарыстанне ў сферы мастацтва эканамічных катэгорый, прынамсі, інтэнсіфікацыя мастацкай вытворчасці, аказалася шкодным. Затармозілася развіццё сеткі канцэртных арганізацый, музычных калектываў, утварэнню якіх заміналі *штатныя абмежаванні*. Рос, паўтараю, толькі план. На рэпетыцыйны перыяд ужо не заставалася часу, так што новыя праграмы выпускаліся нярэдка на гастролях. Творчы *крызіс пагрозліва апусціўся на* «рэнтабельную» эстраду.

Можа, няма асаблівага сэнсу зазіраць ва ўчарашні дзень нашай эстрады? Але ж ён не толькі дае пэўныя тлумачэнні цяперашняга стану гэтага жанру, а і прысутнічае ў рэаліях сённяшняга дня...

ПРЫНЯТАЯ год назад пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшым паляпшэнні канцэртнай дзейнасці ў краіне і ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы канцэртных арганізацый» адкрыла шлюзы творчай ініцыятывы, выявіла новыя матэрыяльныя магчымасці. У рэспубліцы адкрыліся яшчэ дзве філармоніі—у Брэсце і ў Гродне. У абласных цэнтрах арганізуюцца аб'яднанні музычных ансамбляў. А гэта, безумоўна, база для развіцця музычна-эстрадных жанраў, раскрыцця новых талентаў. Да 1990 года (час адкрыцця Палаца культуры рэспублікі) будзе створаны эстрадна-харэаграфічны ансамбль, які супольна з аркестрам эстраднай музыкі, ужо арганізаваным у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, стане асновай будучага мюзік-хола. Усё гэта прадугледжана ўрадавай праграмай развіцця музычнага мастацтва і паслядоўна ажыццяўляецца.

*Зразумела, наіўным было б* меркаваць, што можна спланаваць падрыхтоўку пэўнай колькасці салістаў, музыкантаў-выканаўцаў і затым, купіўшы ў магазіне найноўшыя інструменты, забяспечыць хуткі росквіт эстрады. На практыцы ўсё куды *больш складана, а імклівы* рост новых калектываў яшчэ і абвастрае праблемы матэрыяльнага і кадравага забеспячэння канцэртных арганізацый.

Канкурэнтаздольнасць савецкай эстрады істотна залежыць *ад узроўню яе тэхнічнай аснашчанасці*. На жаль, вытворчасць высакакласнай музычнай апаратуры ў нас у краіне і ў краінах сацыялістычнай садружнасці пакуль яшчэ не наладжана, а цэнтралізаваныя закупкі надзвычай рэдкія і, канечне, задаволіць надзённыя патрэбы не здатныя. Застаецца пакуль адзіная крыніца — камісійны гандаль, які «ўзброіў да зубоў» многія самадзейныя рок-групы. *Як ні шкада*, дзяржаўным калектывам доступ да гэтай апаратуры закрыты. У гандлю тут свой план. А план і справа, няхай сабе нават дзяржаўнай важнасці, пакуль не заўсёды супадаюць.

Новай пастановай прадугледжаны меры і па ўмацаванні сувязей канцэртных арганізацый з навучальнымі ўстановамі, па пашырэнні падрыхтоўкі спецыялістаў эстраднай музыкі. Бадай, самай усцешнай з'явай музычнай адукацыі сталі дзіцячыя эстрадныя аркестры 1-ай, 9-ай, некаторых іншых музычных школ Мінска. (Часам маленькая практычная справа даражэй за вялікія праграмы і планы). *Але было б глыбокаю* памылкай лічыць, што вузкі спецыяліст у сферы эстрады можа дасягнуць сапраўднага поспеху. Вядома, галоўная ўмова — апантанасць сваёй справай, але нельга ігнараваць грунтоўную музычную адукацыю, мастацкі і жыццёвы вопыт. І таму, хаця сёння ў Мінскім музычным вучылішчы, у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі вядзецца спецыяльная падрыхтоўка будучых эстрадных выканаўцаў і вызначаны меры па яе значным пашырэнні, сапраўдны ўздым гэтага жанру я звязваю ўсё-такі з ажыўленнем музычнай адукацыі ў цэлым.

Альфай і амегай перабудовы музычнай адукацыі павінна стаць усебаковае заахвочванне *і арганізацыйнае забеспячэнне* самастойнай творчай дзейнасці, якая фарміруе творчую асобу. Выяўленне індывідуальнасці, самабытнасці нельга адкладаць на пасля. Дый што значыць без індывідуальнасці тая ж эстрада? Нельга выходзіць на яе, каб спяваць гэтаксама добра, як нехта ўжо спявае. Яна вымагае непаўторнасці і... таленту. Талент, вядома, з'ява не частая — тым больш небяспечна і недаравальна яго абмінуць! Аднак дзеля поспеху трэба не толькі шукаць таго адзінага, у якім неабходна «асобу выявіць», а і ў кожным навучэнцы музычнай школы ці ВНУ фарміраваць індывідуальныя творчыя асаблівасці. Інакш настаўнік не здолее павесці сапраўды таленавітага вучня.

Поспех выхавання таленту, думаю, не толькі ў асаблівай увазе да яго, а і ў плённай барацьбе з шэрасцю ў мастацтве. Барацьбу гэтую трэба весці, як гавораць, на ўсіх франтах і ўзмацніць яе ў ВНУ. Бо няма нічога больш непахіснага, чым дыпламаваная бяздарнасць! Яна паглынае часам унікальныя ў прафесійным мастацтве рабочыя месцы, яна заўсёды больш «маральна ўстойлівая», заўсёды — на варце «правільных» густаў.

ГАВОРАЧЫ пра фарміраванне творчай самастойнасці, міжволі сутыкаешся з праблемай маладзёжнай самадзейнасці. Сёння ва ўстановах культуры налічваецца 2173 ВІА. Летась іх было на 30 больш. Сярод іх ёсць групы, падобныя да прафесійных, ёсць і «ні да чаго не падобныя» — не з-за яркай самабытнасці, а з прычыны гранічнай слабізны ўсіх выканаўчых кампанентаў. Ды ўсё ж, ці варта, каб колькасць груп памяншалася? Ці не прыпадабняемся мы, часам, да тых арганізатараў фізічнага выхавання, якія працуюць толькі на сапраўдны спартыўны вынік? Ці заўсёды патрэбны падлеткам прафесійна складзеныя вершы і музыка? Яны ж хочуць ствараць і самі, хочуць сказаць штосьці важнае для сябе і пра сябе... Памагчы ім трэба, але не разбураючы творчую аснову іх самадзейнага музычнага быцця.

Праведзеныя нядаўна ў Полацку і ў Мінску агляды патрыятычнай песні, дзе выступілі лепшыя рок-групы рэспублікі, паказалі, што гэты жанр мае сваю перспектыву, сваю аўдыторыю. Фестывалі рок-музыкі, конкурсы брэйк-данса, стварэнне па ініцыятыве камсамола інфармацыйнага маладзёжнага цэнтра ў Мінску пры Палацы культуры прафтэхадукацыі, — усё гэта сведчыць найперш аб тым, што скончылася, нарэшце, «нелегальнае» існаванне музычных прыхільнасцей большай часткі нашай моладзі.

На адной тэлевізійнай перадачы маладыя людзі задавалі мне слушныя пытанні. Што здарылася з нашай эстрадай? Дзе новыя, экспрэсіўныя, дынамічныя групы, дастойныя канкурэнты заходніх рок-ансамбляў?

Аналагічная трывога прагучала ў 1984 годзе, калі за «круглым сталом» праходзіла гутарка музыказнаўцаў, дзеячаў мастацтва, работнікаў органаў культуры: «Асноўная небяспека заключаецца сёння ў нашым няўменні прагназіраваць і кіраваць развіццём быту сродкамі культуры. Абмінаючы вострыя праблемы, адштурхоўваючы іх ад сябе, мы перасталі разумець сацыяльна-псіхалагічную сутнасць таго, што адбываецца. Скасаваць ВІА — значыць ісці супраць натуральнага руху рэчаў у побытавым мастацтве». Гэта словы Т. Шчарбаковай, старшыні секцыі крытыкі Саюза кампазітараў БССР. Ёй жа належыць шчырае прызнанне на пасяджэнні другога «круглага стала» ў Міністэрстве культуры — наконт негатыўнасці музыказнаўчай думкі прафесійна ацэньваць усю шматаблічнасць творчасці ВІА, як самадзейных, так і філарманічных. А там, дзе слабая тэорыя, рунее суб'ектывізм! Адсюль — блытаніна і суб'ектыўнасць у ацэнках музычных з'яў, заснаваныя на схільнасці чалавека абсалютызаваць уласныя звычкі і густы. Адсюль — няўменне за вонкавымі, другараднымі прыкметамі ўбачыць сутнаснае. Адсюль — тая прыкра-славутая сітуацыя, калі ў ранг ідэалагічных праблем з ваяўнічай наіўнасцю ўзводзіліся даўжыня валасоў або сцэнічны касцюм.

Аднак з той самай тэлевізійнай перадачы запомніліся мне апантаныя вочы бялявага хлапчука, які сказаў, што ў мастацтве ёсць толькі адна праблема: «метал — або ньювэйф» (?!). Ён быў настроены агрэсіўна, нігілізмам сваім не бравіраваў. Яму проста недалі дарослыя таго, што павінны абавязкова перадаваць старэйшыя пакаленні сваім нашчадкам, — чалавечае культуры. У сувязі з гэтым не магу не хваляваць дэмагагічныя пазіцыі некаторых маладзёжных лідэраў, якія ўпарта абмяжоўваюць сферу маладзёжнай музыкі (а значыць — інтарэсаў!) рокам і брэйкам.

Гэтыя пастаянныя хістанні ў крайнасці... Не паспелі яшчэ развеяцца хмары над рокам, як, ва ўмовах поўнай бездапаможнасці нашай музычнай крытыкі, пачала наспяваць пагроза шырокай прапаганды кампілятараў ад мастацтва. Яны паспяхова «здымаюць» музыку заходніх ансамбляў, за якой хаваюцца ідэі насілля і песімізму, дэгуманізацыі і прыніжэння асобы, падстаўляюць «нармальныя» словы — і опус гатовы. А калі тэкст на беларускай мове, дык можна замахнуцца і на стварэнне нацыянальнай формы рока (?!). Нацыянальнае ж музычнае мастацтва нараджаецца на аснове гістарычна сфарміраваных шматстайных духоўных праяў жыцця народа, нацыянальная песенная мелодыка вырастае з паэтыкі роднай мовы, удасканальваецца, ускладняецца разам з ёю, набываючы жывыя сучасныя формы.

Апошнім часам даводзілася чуць абывацельскія выказванні наконт Саюза кампазітараў рэспублікі: маўляў, там многа творцаў, якія працуюць «на паліцу», творы іх рэдка выконваюцца. Ставіць знак роўнасці паміж творам рэдка выконваемым і неталенавітым — дылетантызм, недарэчнасць! Хіба віна кампазітараў у тым, што апошнія 15 гадоў практычна не развівалася сетка канцэртных арганізацый і музычных калектываў, а саюз прытым вырас колькасна ўдвая? Як вядома, творы беларускіх аўтараў гучаць на сцэнах музычных тэатраў, філармоній краіны і за мяжой. Канцэрты нядаўняга фестывалю «Мінская вясна» ясна акрэслілі не толькі праблемы нашага музычнага мастацтва, але і пошук беларускімі кампазітарамі духоўнага эквіваленту жыццёвым праблемам сучасніка.

Іншая справа, што многія грані музычнага побыту застаюцца па-за ўвагай кампазітараў, значна паслабелі творчыя сувязі прафесійных і самадзейных музыкантаў. Апошняя акалічнасць асабліва небяспечная для жывога ўзаемаўзбагачэння, бо самадзейная творчасць нараджаецца з актуальных патрэб моладзі. Таму мяркуецца супольны ўдзел музыкантаў-прафесіяналаў і аматараў у аглядах самадзейных ансамбляў у Наваполацку і ў Салігорску, у джазавым фестывалі ў Віцебску, рыхтуецца праграма сумеснага выступлення ансамбля «Сузор'е» і мінскай рок-групы «Бонда».

Наперадзе — фестываль беларускай эстраднай музыкі, які, будзем спадзявацца, набудзе прэстыж і стабільнасць. На гэты раз ён пройдзе напярэдадні 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Удзельнікамі будуць вядучыя беларускія салісты і калектывы, новы эстрадны аркестр, лепшыя прадстаўнікі самадзейнасці. Слухачы змогуць ацаніць выступленні маладых спевакоў Т. Арлоўскай, Ю. Скараход, Л. Парамонавай, З. Мельнічэнка, С. Тарлоўскага, дуэта Г. Галенда — У. Кудрын і іншых. Пакажуць свае работы ўдзельнікі студый пры ансамблях «Песняры» і «Верасы».

Хто з маладых адкрые яркую старонку ў беларускім эстрадным мастацтве, пакажа час. Але несумненна, што творчае абнаўленне ўсіх бакоў нашага жыцця не абмінула эстраду, і мы можам спадзявацца на яе цікавую перспектыву. Наперадзе — пераадоленне цяжкасцей і расчараванняў, імкненне да вышынь, пошук змястоўнай самабытнасці.

**НАШ КАЛЯНДАР**

# ЦЫМБАЛЬНЫ АРФЕЙ

**Да 80-годдзя з дня нараджэння народнага артыста СССР Іосіфа ЖЫНОВІЧА**

ЗАСНАВАЛЬНІК прафесійнага выканальніцтва на беларускіх народных інструментах, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, прафесар... Уся яркая, кіпучая дзейнасць гэтага выдатнага музыканта прайшла па шляху, асветленым Вялікім Кастрычнікам. Яна непасрэдна звязана са станаўленнем і росквітам беларускага нацыянальнага музычнага мастацтва, прынамсі, народна-інструментальнага.

Творчае аблічча Іосіфа Іосіфавіча Жыновіча было надзвычай шматграннае: саліст-віртуоз на цымбалах, да канца свайго жыцця — мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага народнага аркестра БССР, прафесар і заснавальнік кафедры народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, член Саюза кампазітараў БССР, асветнік-прапагандыст народна-інструментальнай музыкі. Ды не трэба думаць, што Жыновіч — фаварыт фартуны. За ўсім, чаго ён дамогся, — тытанічная падзвіжніцкая праца, а нават самая напружаная, мэтанакіраваная праца без яркага прыроднага таленту — слабая і безвыніковая. Талент Жыновіча самабытны і непаўторны, як непаўторнае і самабытнае характва беларускай зямлі...

Праз усё жыццё Іосіф Іосіфавіч пранёс сваю любоў і сыноўнюю вернасць свайму роднаму краю, вёсцы Арэшкавічы Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці, дзе ён нарадзіўся і спасцігаў прастату і мудрасць народнай творчасці.

Патомны цымбаліст, ён шасцігадовым хлапчуком упэўнена іграў на цымбалах, якія для яго спецыяльна зрабіў бацька; удзельнічаў у сямейным ансамблі. Чуйным вухам хлопчык услухоўваўся ў ігру народных музыкаў, спевакоў і інструменталістаў. Падлеткам ён ужо іграў на вечарынках, вяселлях, хрэсьбінах, на народных святах разам з бацькам ці ў ансамблі з іншымі вяскоўцамі. Юзік (як яго звалі ў той час) заўсёды іграў заўзята і шчыра, з жаданнем, каб яго выкананне абавязкова спадабалася.

У 1918 годзе ў вёсцы Арэшкавічы на некалькі дзён размясцілася вайсковае падраздзяленне. Камісар гэтага падраздзялення жыў у доме Жыновічаў. Пачуўшы ігру падлетка, ён параіў бацькам абавязкова даць сыну музычную адукацыю. Час быў цяжкі, галодны, і бацькі не надалі ўвагі такой парадзе. Але вось улетку 1922 года ігру Юзіка пачуў служачы-чыгуначнік з Мінска М. Іваненка. Віртуозная ігра юнака на цымбалах зачаравала яго. Зімою ён спецыяльна прыехаў па яго і арганізаваў праслухоўванне ў Першым Беларускім драматычным тэатры (цяпер тэатр імя Я. Купалы). Камісіі ігра вясковага музыкі вельмі спадабалася. І хутка ў якасці артыста-музыканта Жыновіч ужо ўдзельнічаў не толькі ў спектаклях, а і ў канцэртах, якія наладжваў тэатр, прапагандуючы нацыянальнае мастацтва. Іграў усё, што неабходна было па ходу сцэнічнага дзеяння, але іграў па слыху — і гэта тармозіла яго музычнае развіццё.

У невялікім аркестры тэатра ўсе, акрамя Жыновіча, ігралі па нотах, а ён з зайздрасцю глядзеў на такіх музыкантаў, яму вельмі хацелася авалодаць «сакрэтам». І вось з'явілася магчымасць. Са сваім сябрам Станіславам Навіцкім, з якім наладзілі дуэт цымбалістаў, Жыновіч у 1926 годзе паступіў у музычную школу. Тады ж Жыновіч удзельнічаў у здымках беларускага мастацкага фільма «Лясная быль» паводле аповесці М. Чарота. Праз год дуэт цымбалістаў — І. Жыновіч і С. Навіцкі — удастоіўся гонару выступаць у канцэрце для дэлегатаў IV Усесаюзнага з'езда Саветаў у Маскве.

Тым часам Жыновіч становіцца студэнтам юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Мінскага музычнага тэхнікума. Сваю паспяховую вучобу спалучае з работай у арганізаваным цудоўным музыкантам — Дзмітрыем Захарам — ансамблі Беларускіх народных інструментаў. У снежні 1930 года пастановай Калегіі Наркамасветы БССР калектыў быў зацверджаны ў якасці Беларускага дзяржаўнага ансамбля народных інструментаў. Кіраўніком яго быў прызначаны Д. Захар, а канцэртмайстрам і салістам — І. Жыновіч. Праз месяц пасля арганізацыі Ансамбля ён прыняў удзел у канцэрце Тыдня беларускай культуры ў Маскве. А потым — гастролі па Украіне, Грузіі, па роднай рэспубліцы. Паўсюдна Ансамбль прымалі цёпла і гасцінна шматлікія слухачы, бо, як зазначалася ў друку, ён стаў яркім доказам нашых дасягненняў у галіне мастацтва — нацыянальнага па форме і сацыялістычнага па змесце.

Вось што прыгадвае народны артыст БССР кампазітар Анатоль Багатыроў:

**— З Жыновічам я пазнаёміўся ў верасні 1930 года ў Мінскім музычным тэхнікуме, дзе мы займаліся па класе тэорыі і кампазіцыі. Іосіф Іосіфавіч ужо тады любіў беларускі фальклор і захапляўся беларускай народнай песняй і асабліва танцам. Ён быў выдатным цымбалістам-выканаўцам, з першых дзён свайго знаходжання ў Мінску ён выклікаў у мяне захапленне і здзіўленне, бо, па сутнасці, ігры на цымбалах ён датуль ні ў кога не вучыўся. Адораны шчодрым талентам, ён так нагадвае Сымона-музыку — героя знакамітай паэмы Якуба Коласа! Розніца заключаецца толькі ў наступным. Якуб Колас дае ў паэме прыклад немагчымасці развіцця таленту — выхадца з народа ў дарэвалюцыйны час; Жыновіч — таксама тыповы народны талент, але, развіваючыся ва ўмовах савецкай рэчаіснасці, ён стаў выдатным выканаўцам на сваім родным інструменце, цудоўным дырыжорам і музыкантам. Многія ведаюць, што маладосць яго была нялёгкая. Нягледзячы на цяжкасці, дзякуючы зайздроснай працаздольнасці, Іосіф Іосіфавіч дасягнуў вяршыняў у выканаўчым мастацтве. Яго выканаўчае майстэрства на цымбалах глыбока нацыянальнае. Яно было рэалістычнае, змястоўнае і высакароднае. У ім не адчувалася нічога знарочыстага, падманлівага, надуманага. Шчыры і патрабавальны мастак, Жыновіч цураўся якой бы там ні было афектацыі, позы. Дзеля маляўнічага эфекту, дзеля павярхоўнага бляску ён ніколі не адступаўся ад мастацкага сэнсу. Яго ігра, задушэўная і паэтычная, ніколі не надакучвала. Я вельмі ясна помню яго бліскучыя выступленні ў Маскве ў дні першай дэкады беларускага мастацтва.**

У 1937 годзе, калі ўтварылася Беларуская дзяржаўная філармонія, Ансамбль народных інструментаў быў пераўтвораны ў Дзяржаўны народны аркестр БССР. Аркестр узначаліў таленавіты савецкі дырыжор, пазней народны артыст СССР К. Сімяонаў. Ён высока цаніў выканаўчае мастацтва канцэртмайстра і саліста аркестра І. Жыновіча.

Вялікай творчай падзеяй для аркестра быў удзел у чэрвені 1940 года ў Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. Выступленне музыкантаў было прынята сардэчна і цёпла, яны вярнуліся ў Мінск, акрыленыя поспехам, мелі новыя творчыя планы... 21 чэрвеня 1941 года, за дзень да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, І. Жыновіч здаў апошні экзамен у кансерваторыі. Атрымаўшы дыплом, малады музыкант пайшоў у ваенкамат прасіцца на фронт. Аднак яму адмовілі і накіравалі ў Казахскую дзяржаўную філармонію ў Алма-Ату. Ён удзельнічаў у канцэртах франтавых брыгад, а калі пачалося вызваленне Беларусі, уключыўся ў культурна-масавую работу сярод насельніцтва.

У 1946 годзе І. Жыновіч узнавіў народны аркестр, стаў яго мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам. Імкнучыся пашырыць і ўзбагаціць рэпертуар, настойліва і паслядоўна ажыццяўляў свае мастацкія задумы. Пастаянна клапоцячыся пра развіццё народна-інструментальнага жанру і падрыхтоўку маладых кадраў музыкантаў-выканаўцаў, стварыў першую «Школу ігры на беларускіх цымбалах», заснаваў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі спачатку клас цымбалаў, а пазней кафедру народных інструментаў, якую ўзначальваў да 1963 года. Ён выхаваў цэлую плеяду беларускіх музыкантаў, выканаўцаў на народных інструментах.

Міфічны музыкант Арфей сваім спяваннем і ігрой на ліры пакарыў змрочнага бога Плутона, уладара падземнага царства ценяў, прымусіў яго вярнуць з прыстанку мёртвых цудоўную Эўрыдыку. Іосіф Жыновіч сваім цудоўным выкананнем садзейнічаў пераўтварэнню «брыдкага качаняці» — прымітыўных цымбалаў — у «прыгожага лебедзя» — у дасканалы, акадэмічны інструмент, які заняў у табелі аб рангах месца побач з прызнанымі ва ўсім свеце музычнымі інструментамі — фартэпіяна, скрыпкай; абудзіў да жыцця беларускі народны аркестр.

Плённым было ягонае жыццё: Жыновіч стварыў школу прафесійнай ігры на цымбалах, выхаваў цэлую армію высокакваліфікаваных салістаў. (Сярод іх заслужаныя артысты БССР Я. Гладкоў, В. Бурковіч, Т. Сцяпанава, салісты філармоніі М. Шмелькін, А. Лявончык; выдатныя педагогі Т. Сергіенка, В. Тупіцын, А. Кācановіч, Я. Бабровіч і многія іншыя). Утварыў аркестр народных інструментаў, які цяпер носіць імя І. Жыновіча. Усе цымбалісты — артысты аркестра — ці яго вучні, ці вучні яго вучняў. У спадчыне засталіся і творы Жыновіча для цымбалаў, для цымбальных ансамбляў, для аркестра беларускіх народных інструментаў; шматлікія артыкулы ў перыядычным друку па актуальных праблемах народна-інструментальнага мастацтва; брашуры і кнігі.

Сёння Дзяржаўны народны аркестр БССР імя І. Жыновіча (калектыў нядаўна ўдастоены вышэйшага ганаровага звання — «акадэмічны») развівае сваё майстэрства пад кіраўніцтвам таленавітага музыканта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Міхася Казінца. Пра свайго настаўніка ён гаворыць:

**— Жыновіч — эпоха ў народна-інструментальным мастацтве Беларусі. З іменем Жыновіча звязаны каласальны ўзлёт ад простага народнага музіцыравання да вяршыняў прафесійнага акадэмічнага выканальніцтва. Дыяпазон яго творчай дзейнасці надзвычай шырокі. Пры гэтым вельмі важна адзначыць не толькі, ШТО зрабіў Іосіф Іосіфавіч, не менш важна — ЯК ён усё ажыццяўляў. Пастаянна імкнучыся да новага, ён ніколі не забываўся на старое. Лепшыя традыцыі народнай творчасці служылі яму падмуркам для стварэння сучаснага будынка нацыянальнага мастацтва. Несупынныя творчыя пошукі, пастаяннае імкненне да дасканаласці, высокія мастацкія ідэалы служылі, служаць і будуць служыць сапраўдным маяком для нас — яго вучняў і паслядоўнікаў.**

Міхась СОЛАПАЎ.




**Вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння народнага артыста СССР Іосіфа Жыновіча, адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. З уступным словам выступіў народны артыст БССР Анатоль Багатыроў (на здымку). У канцэртнай праграме ўдзельнічалі цымбалісты — колішнія вучні І. Жыновіча, Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр БССР, які носіць імя выдатнага музыканта.**

Фота Ул. КРУКА.

*24 мая—Дзень славянскай пісьменнасці і культуры, нацыянальнае свята Народнай Рэспублікі Балгарыі*

# З СУЧАСНАЙ БАЛГАРСКАЙ ПАЭЗІІ

**Любамір ЛЕЎЧАЎ**

## Язычніцкае заклінанне

К. ПАЎЛОВУ

Пагоркі сонечныя,
курганы,
магілы,
трымайцеся!
Яшчэ знайдзіце сілы!
Асадаю смяротнай вас абселі
кашары, фермы,
дачы
і матэлі.
Плугі,
бульдозеры
і экскаватары
усё вышэй крамсаюць вашы скаты.
Вы ж ім процістаіце крамяністай
сваёю сутнасцю,
травою караністай,
экстазам вечнасці,
той дзікай першароднасці,
пазбавіўшы якой,
не стане гордасці...

Пагоркі безыменныя,
раўнін узлобкі.
Вы — сваякі высозных гор усё-ткі.
Далёкія.
І бедныя.
Ды ў вашых сэрцах —
вяршынь непрымірымасць,
дух бяссмерця.

Прасяклы эгаізмам калектыўным,
вам памаліцца
я іду, наіўны.
Зайцоў і ястрабаў апошнія бажніцы,
цалую неруш вашай таямніцы!
Яшчэ цалую
дзёрзкі выклік свету —
падняцца тут,
парушыць роўнядзь гэту!

**Павел МАЦЕЎ**

## Маладому паэту

Вось і зноў я марай даль крыляю,
а лічыў, што ўжо струхлеў на пыл.
Значыць, зноў магу — дасягшы краю —
быць натхнёным, зведаць радасць крыл.

Можа падхапіць мяне стыхія.
Можа падхапіць мяне вада.
Можа, злыдні дзе заб'юць якія
ці спаткае іншая бяда.

Зноў магу перад красой жанчыны
ціха ўкленчыць, стаць яе рабом.
І магу заплакаць без прычыны,
шчыра ўзрушаны чужым радком.

Слова звонкае пачую — годзе:
паімчуся ўслед і я туды.
Толькі не з мурашніку хай дойдзе,
а з нябёс — ад вольнай чарады.

**Дзімітр МЯТОДЗІЕЎ**

## Дзве лірычныя мініяцюры

●

Нярэдка ў размаітым свеце гэтым
я чуюся — бы трапіў на базар.
Ды не для продажу душа ў паэта!
Чужымі ж таргаваць — не дасця дар.

Ацэнены і позіркам і слоўцам,
спазнаў і духу ўзлёт, і крах-адчай.
Што меў сказаць — сказаў пад ясным сонцам.
І нават тое ўсё, што прамаўчаў.

●

Канец сяброўскае вячэры.
Пара дамоў.
Апошні тост.
Не пашкадуеш аб даверы?
Не ты быў той,
хто заўтра ж рана ў ранак шэры
прададзен будзе, як Хрыстос?
Сярод сяброў — усё быць можа!
Адно прышлі Хрыстоса, божа,
а Юда — знойдзецца і сам...

**Добры ЖОЦЕЎ**

## Камп'ютэр

Сузор'і зіхатлівыя вандруюць
бясконцымі шляхамі...

Жалезны эмбрыён
ва ўтробе часу нашага зачаты,
бяссільныя мы прадказаць цябе.
І вось у берагах здагадак смутных
са стогнам разбіваюцца
і вера і бязвер'е.

Ты — наша будучыня?
Ці — ты наша смерць?
Ці, можа, паявілася прыкмета,
што лёсам наканавана
па справядлівасці вышэйшай легчы
нам у падмурак прышласці?

Бяссільныя,
бяссільныя мы прадказаць цябе.
Але бяссільны й ты,
хоць і расце ў табе нябачна сіла
са скорасцю міфічнай бліскавіцы.

Жалезны эмбрыён!
Будзь ты пракляты! Будзь благаслаўлёны!
І зноў пракляты будзь!
...А ты, загадка-будучнасць,
яшчэ спакон вякоў глуханямая,
прагавары! Прагавары!

Сузор'і занядбаныя вандруюць
бясконцымі шляхамі...

**Эўцім ЭЎЦІМАЎ**

## Божы гроб

Хмары падаюць — за снопам сноп.
Добра жнуць вятры, па-гаспадарску.
Мілы прадзед мой,
твой божы гроб
не за межамі зямлі балгарскай.
Божы гроб — Аколчыца ў імгле,
з ветравеямі на скалах вострых.
Божы гроб тут — кожны дол і лес!
Божы гроб твой — Струма і Агоста.
Так, далёка дзесь Ерусалім:
Безліч вёрст ад родных нам ваколіц!
Ды трудней равеснікам маім
да магілаў брацкіх шлях адолець.
Хворыя знявер'ем, вас агонь
моцны тут, на курганах, абпаліць,
але толькі ў полымі яго
можна вылечыць
душу і памяць.
Пацалуйце ж продкаў вечны прах
над пагоркамі ў чмяліным гудзе.
Тут не пройме забабонны страх.
Чыстымі
ідуць адгэтуль
людзі!

**Найдзен ВЫЛЧАЎ**

## Гіганцкі слалам

Абажаю гіганцкі слалам.
З маладой усмешкай у белых зубах.
Дзёрзкі, рызыкоўны, не для духам слабых,
не знаёмы з кіслым слоўцам «страх».

Вораг павольных трас раўнінных,
схіл 60-градусны выбірае ён.
Так, не для кожнага гэта дысцыпліна.
Ды для кожнага тут яго закон.

Бо гіганцкі слалам — гэта, братка,
ці гіганцкі поспех-перамога, ці —
зрыў-правал гіганцкі. Але напачатку
думкі пра зрыў ты к сабе не падпусці.

Сонца ў тваіх зрэнках і ўзрыўная воля,
ты, флажкі і скорасць, ды вецер ля вушэй —
нібыта спускаешся дадолу, дадолу,
а твой дух — угору, вышэй і вышэй.

**Лучазар ЭЛЕНКАЎ**

## Бацька мой...

Між вытокам і вусцем ракі
невядомае застаецца.

Адно ёсць пачатак.
А другое — канец.

Цяпер — пра цябе і мяне:
Ты — дзяцінства майго тварэц.
Я ў думках іду да цябе
і толькі ўяўляю:
— Знаю,
мой дзед пасля Першай сусветнай
напужаў сялян сваім туберкулёзам
і ў зямлі патануў, як востраў.

Пры табе і пры маме вучыцца
мая дачка гаварыць.
Параўнай яе голас з пачаткам ракі
і слухай сваё рэха.

**Матэй ШОПКІН**

●

Сябры? Сяброўствы? Страшна парадзелі!
На пальцах можна ўжо злічыць, бадай.
А ў маладосці — зоркамі зіхцелі
над сцежкай, што вяла за небакрай.

Цяпер не спаць у снах бяззорных мусіш,
на сцежцы — цёрн з калючаю травой,
сяброўствы з вераломствамі рыфмуеш
і ў гэтай рыфме дух крывавіць твой.

Таму, якое б свет ні знаў кавардства, —
ні ў бляску дня, ні поначы ў журбе,
не прадавай, брат, і не прадавайся, —
хоць нават станеш вораг сам сабе!

**Здраўка КІСЁЎ**

## Эпітафія

Нібы ў гульні бязвіннай, мякка
далонню вочы мне закрыла:
«Пазнай, хто я?» Пазнаў адразу:
«Ты — Маладосць мая!» — сказаў я.
Другі раз сталася такое ж —
пазнаць, як перш, ужо не змог я,
бо задала пытанне Старасць,
я ж маладым яшчэ лічыўся.
Калі ж у трэці раз рукою
закрыў мне раптам позірк нехта —
не запытаў ужо нічога.
Я зразумеў — гульня згуляна.

**Георгій КАНСТАНЦІНАЎ**

## Апошняе слова

Мае веды ўчарашнія
мне здаюцца цяпер
непатрэбнымі.
А пачуцці ўчарашнія
упрыгожваюць
межы пяройдзеныя.
Свет, што міл нам і люб,
нібы школьны падручнік, старэе.
Нехта новыя
мусіць старонкі пісаць —
і па-новаму.
Знаю, хлопцы, у прыкрасць вам
гэта гуманнасць дзядоўская.
Ды без веры й любові
не рвіцеся ў шлях безразважна!
Бо за некім жа іменна з вас, —
не за тэхнікі словам апошнім, —
будзе ўрэшце
апошняе слова.

**Паун ГЕНАЎ**

## Замест эпілога

Калі ўсё-такі некалі дзесьці
і па мне хтосьці шчыра заплача,
дык значыць —
недарэмна пражыў я на свеце,
дык значыць —
даў калісьці камусьці і я
кроплю ласкі ад чыстага сэрца.

З балгарскай пераклаў
Ніл ГІЛЕВІЧ.

**ПОСТУП КАСТРЫЧНІКА: ПАДЗЕІ І ФАКТЫ**

# Там, ля Паўночнага полюса

Днямі, слухаючы чарговы выпуск апошніх паведамленняў Усесаюзнага радыё, пачуў навіну, якая вельмі мяне ўсхвалявала. Рыхтуецца да высадкі ў ільдах Арктыкі трыццатая па ліку станцыя «Паўночны полюс». Трыццатая! Юбілейная! Падумаць толькі...

50 гадоў мінула з таго часу, калі савецкія палярнікі на чале з І. Папаніным пакарылі Паўночны полюс.

Я ведаю пра Паўночны полюс не па падручніках, не па кнігах. Па ўласным вопыце. Ці трэба казаць, якія цяжкасці перамаглі дарогу тых, хто спрабаваў дасягнуць Паўночнага полюса? А спроб было нямала.

21 мая 1937 года чатырохматорны гігант, пілатуемы Героем Савецкага Саюза М. Вадап'янавым, упершыню сеў на лёд Паўночнага полюса, высадзіў там вучоных, якія таксама ўпершыню ў гісторыі чалавецтва пачалі сапраўднае асваенне самага паўночнага пункта Зямлі. Так пачала працаваць славутая дрэйфуючая станцыя «Паўночны полюс»-1 у складзе чатырох вопытных палярнікаў— І. Папаніна, П. Шыршова, Е. Фёдарава і Э. Крэнкеля. Станцыя дрэйфавала 274 дні. Каштоўныя звесткі, атрыманыя экспедыцыяй, увайшлі ў гісторыю сусветнай навукі. Калі станцыя «Паўночны полюс»-1 наблізілася да Грэнландскага мора і крыга скарацілася да небяспечных памераў, да папанінцаў прабіліся савецкія самалёты і караблі, знялі адважную чацвёрку і вывезлі на Вялікую Зямлю.

Вайна перапыніла даследаванні Цэнтральнай Арктыкі.

І толькі ў 1950 годзе была арганізавана дрэйфуючая станцыя «Паўночны полюс»-2. Мне пашчасціла ўдзельнічаць у гэтай экспедыцыі. Калі на «ПП»-1 было ўсяго чатыры чалавекі, дык на «ПП»-2 нас было шаснаццаць. Больш зручныя былі палаткі, і ацяпляліся яны не прыборамі на вадкім паліве, як раней, а прапан-бутанавым газам у балонах. Карысталіся ім і для прыгатавання ежы. Для вымярэння глыбіняў акіяна папанінцам даводзілася па некалькі сутак круціць лябёдку з тросам. У нас жа гэту работу выконвалі маторы.

Але, вядома, хапала цяжкасцей і на «ПП»-2. Мы не мелі трывалай паветранай сувязі з Вялікай Зямлёй, часта выходзіла са строю радыёстанцыя, якая была прызначана толькі для службовых мэт і больш-менш надзейна падтрымлівала сувязь з бліжэйшай палярнай станцыяй. Калі аднойчы радыёстанцыя сапсавалася, мы на некалькі дзён наогул апынуліся адарванымі ад усяго свету.

Наступныя станцыі «Паўночны полюс» ужо былі забяспечаны надзейнай сувяззю, мелі трактары. Акрамя палатак, з'явіліся лёгкія фанерныя домікі на палазах, якія ў выпадку неабходнасці можна было перацягваць з адной крыгі на другую. Наладзілася і сувязь з блізкімі. Удзельнікі дрэйфу атрымалі магчымасць пастаянна адчуваць увагу і клопат не толькі родных, але ўсяго савецкага народа.

Цяпер у раёне Паўночнага полюса адначасова дрэйфуюць па дзве станцыі са штогадовай зменай людскога саставу.

Я пільна сачу за тым, што робіцца сёння па асваенні Цэнтральнай Арктыкі. З удзячнасцю і любоўю ўспамінаю сваіх настаўнікаў і кіраўнікоў — двойчы Героя Савецкага Саюза І. Папаніна, з якім неадназова сустракаўся, Героя Савецкага Саюза Д. Сомава, з якім разам дрэйфаваў на станцыі «Паўночны полюс»-2.

Як аўтару некалькіх кніг пра Крайнюю Поўнач і Цэнтральную Арктыку, мне часам даводзіцца сустракацца з чытачамі. Асабліва — з юнымі. Хто ведае, мо і сярод іх растуць будучыя адкрывальнікі, пакарыцелі нязведаных прастораў.

**Васіль БЛАГАДАРАЎ,**
**удзельнік экспедыцыі «ПП»-2.**

**ВЫСТАЎКІ**

# Ад трагедыі — да «мульціка»




З ЧАСУ першай рэспубліканскай выстаўкі мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання мінула дваццаць гадоў. Стала ясна, што гэтая галіна выяўленчага мастацтва заваёўвае ўсё большую папулярнасць. І, вядома, не толькі ростам фізічнай «жылплошчы», а галоўным чынам ростам свайго мастацкага патэнцыялу. Гэта яскрава дэманстравала нядаўняя, трэцяя па ліку, выстаўка беларускага тэатральнага і кінадэкарацыйнага мастацтва, што экспанавалася ў Палацы мастацтваў. У ёй прынялі ўдзел мастакі шаснаццаці тэатраў рэспублікі, кінастудыі «Беларусьфільм», майстры тэлебачання і мультыплікацыі. Але справа, вядома, не толькі ў колькасці ўдзельнікаў выстаўкі. Першае, што хацелася б адзначыць, гэта творчая самастойнасць у рашэнні сваёй тэмы кожным мастаком. А тэмы гэтыя, падказаныя драматургіяй У. Шэкспіра і М. Шатрова, Ж. Ануя і А. Дударава, Ф. Шылера і Я. Купалы, А. Макаёнка, — ахопліваюць шматлікія грані жыцця мінулага і сённяшняга.

Бадай, ніводная галіна выяўленчага мастацтва не дае такой прасторы ўяўленню і фантазіі, не вымагае ад мастака пабудовы такога спецыфічнага прадметнага свету спектакля, фільма, лялечнага або мультыплікацыйнага відовішча, як гэтая. Створанае мастаком-сцэнографам павінна, з аднаго боку, «уліцца» ў вобраз фільма або спектакля ў адпаведнасці з задумай рэжысёра, драматурга, ігрой акцёра, а з другога — захаваць жыццястойкасць, не «растварыцца», не «памерці» ў агульнай пабудове твора.

Асабліва выразна гэтае дыялектычнае двухадзінства спецыфікі творчасці мастака кіно праявілася ў эскізах і эксплікацыях В. Кубарава да тэлесерыялу «Дзяржаўная граніца», Я. Ганкіна — да карціны «Восеньскія сны», Ю. Альбіцкага да фільма «Двое на востраве слёз», Я. Ігнацьева да «Чужой бацькаўшчыны», У. Дзяменцьева — да «Бацькоў і дзяцей». «Растварыўшыся» ў стыхіі фільмаў, аддаўшы ім, здавалася б, усё магчымае, мастакі не згубіліся ў іх, а засталіся разам з рэжысёрамі душой экранных твораў.

Пераходзячы ад рэчы да рэчы, нібы падарожнічаеш па старонках жывой гісторыі, трапляючы то ў стракаты і разнастайны свет опернай і балетнай класікі Вердзі, Чайкоўскага, Стравінскага, Мусаргскага, Пракоф'ева, Мінкуса, увасоблены Я. Чамадуравым, Я. Жданам, Э. Гейдэнбрэхтам; то разам з В. Галубовічам кантактуеш з героямі Лермантава, Талстога, Горкага; то з пачуццём элегічнага суму ўглядаешся ў зімовы пейзаж, які стаў месцам страсцей чалавечых у эскізах А. Чартовіча да фільма «Дзікае паляванне караля Стаха».

Своеасаблівасць арганізацыі сёлетняй экспазіцыі, яе падачы сталі прадметам абмеркавання амаль ці не ў той жа ступені, што і яе змест. У сутнасці спрэчак, што ўзніклі ў час абмеркавання, няма нічога новага — гэта спрэчкі аб магчымасцях і правах паказу твораў мастакоў тэатра і кіно, і вядуцца яны на розных этапах развіцця экспазіцыйных прынцыпаў. Ці даўно даводзілася абараняць права на паказ макета на выстаўцы менавіта як самастойнага аб'екта, а не як дадатку да абавязкова аўтарскага эскіза? А сёння нам ужо не хапае макета. Нам патрэбны касцюмы, рэквізіт, элементы бутафорыі, эскізы суперзаслон, прадметная атрыбутыка, што выкарыстоўваецца на сцэне або ў фільме.

Вядома, разрыў паміж экспазіцыяй і рэальным жыццём сцэнаграфіі — адвечны і абсалютны, і барацьба за яго скарачэнне не будзе мець канца. Ён адчуваецца і на гэтай выстаўцы нават у таленавітых макетах, выкананых з гранічна развітым пачуццём прасторавага мыслення, вельмі неабходнага для тэатральнага мастака. Я маю на ўвазе макеты Д. Мохава да спектакля па айтматаўскім «Буранным паўстанку», Э. Гейдэнбрэхта да оперы «Карміна Бурана» К. Орфа, Б. Герлавана да «Зацюканага апостала» А. Макаёнка і «Рэвізора» М. Гогаля, Я. Ждана — да «Рыгалета» Д. Вердзі...

У творчай атмасферы ствараўся спектакль па п'есе А. Дударава ў тэатры імя Я. Купалы (рэжысёр В. Раеўскі). Задума мастака Б. Герлавана знаходзіцца ў згодзе з рэжысёрскай трактоўкай: дэкарацыі са спектакля вычленіць цяжка, бо яны цесна зліты з яго эстэтычнай, эмацыянальнай стылістыкай, і гаварыць пра іх можна толькі ў агульным кантэксце спектакля. Пастаноўку «Радавых» ажыццявілі, на мой погляд, для таго, каб не столькі адлюстраваць гістарычныя падзеі ваенных дзён, колькі зірнуць на іх з сённяшняга дня. Прычым аўтары арыентаваліся галоўным чынам на сучаснага гледача і імкнуліся гаварыць на яго мове. Якая ж яна, гэтая мова? Сёння гэтае пытанне задаюць сабе многія мастакі, імкнучыся эмацыянальна авалодаць залай: Ю. Тур — у «Знаку бяды» па В. Быкаву ў Рускім тэатры імя М. Горкага, А. Салаўёў у спектаклях тэатра імя Я. Коласа, А. Фаміна ў сваіх чароўных ляльках да розных пастановак, якія выклікаюць у гледача пачуццё захаплення, непадробную цікавасць, А. Мацвяйчук — у новым фільме «Пераправа», І. Тапілін — у стужцы «Чалавек, які браў інтэрв'ю»... А тут жа, на выстаўцы, гаворка ідзе толькі пра чыста візуальны, статычны бок справы. А ўявіце сабе жыццё гэтых дэкарацый у сцэнічнай і кінематаграфічнай дзеі, калі ідзе працэс узаемаўзбагачэння, узаемакантактаў акцёраў з імі!

У імкненні максімальна скараціць, кампенсаваць разрыў паміж выстаўкай і спектаклем, паміж выстаўкай і фільмам — сэнс удасканальвання метадаў экспазіцыі, руху бясконцага, але зусім не бессэнсоўнага. Не сакрэт, што эскізы Галавіна давалі ў свой час гледачу значна больш дакладнае ўяўленне пра тое, што будзе на сцэне, чым большасць сучасных эскізаў, не толькі таму, што выяўленчая культура Галавіна была вышэйшая, але і таму, што сам характар існавання мастака на сцэне змяніўся надзвычайна.

Жаданне арганізатараў выстаўкі «падысці» як мага бліжэй да гледачоў — бясспрэчнае і не мае патрэбы ў абароне. Для гэтага экспазітары пашырылі перш за ўсё сам «асартымент» экспануемых матэрыялаў. Да эскізаў і макетаў дадалі дакументальныя фотаздымкі (ў раздзеле кінадэкарацый), папярэднія накіды і рабочыя эскізы, эксплікацыі, касцюмы, элементы бутафорыі. А які незвычайны свет мультыплікацыі паўставаў перад намі на выстаўцы! Імёны А. Мацюшэўскай, В. Тарасава, А. Булай, М. Байрачнага, Т. Кубліцкай сёння дастаткова вядомыя аматарам гэтага мастацтва.

Хочацца спадзявацца, што імпэт арганізатараў на гэтым не скончыцца — на наступных выстаўках з'явіцца і трансфармуючыя макеты, і агучаная кінапраекцыя эпізодаў са спектакляў або кінафільмаў, і, відаць, многае іншае. Дарэчы будзе суправаджаць экспанаты анатацыйным матэрыялам пра той ці іншы твор і — абавязкова! — называць рэжысёра-пастаноўшчыка, якому належыць аўтарства фільма, спектакля. Важна, аднак, зразумець, што сёння адбылося не проста колькаснае пашырэнне экспазіцыі, але і якасная яе змена: яна набыла такую ёмістасць і шматграннасць, стала настолькі з'явай у сабе, што можна гаварыць пра пэўныя важныя яе прынцыпы: канцэптуальнасць, дынамічнасць, рэчыўнасць, тэатралізацыю.

Аднак рэзананс, які мае выстаўка, усё ж выкліканы, на мой погляд, не толькі і нават не столькі яе прывабнасцю, а тым, што яна дала магчымасць меркаваць пра творчасць вялікай групы таленавітых і своеасаблівых майстроў і больш таго — задумацца над тымі працэсамі, часткай якіх з'явілася іх практыка.

Якім бы супярэчлівым не выглядаў шлях беларускіх мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання за апошнія два дзесяткі гадоў, якімі б нечаканымі не здаваліся некаторыя іх пошукі — гэта шлях да ўзбагачэння, ускладнення і шматпланавасці зместу.

Высокі прафесійны ўзровень вылучае практычна ўсю экспазіцыю. Няма дакладнай мяжы паміж мастацкім узроўнем работ, створаных у Мінску, і эскізаў, дасланых з гарадоў, якія калісьці называліся тэатральнай перыферыяй. Поспех тэатральнага раздзела забяспечылі разам мастакі Віцебска і Гродна, Брэста і Мазыра, Бабруйска і Гомеля. Сёння на тэатральную арбіту выходзяць здольныя мастакі з абласцей К. Чамекаў, В. Лесін, Т. Карвякова, С. Антонаў, П. Захараў. І ў цітрах кінафільмаў усё часцей з'яўляюцца імёны сярэдняга пакалення «вгиковцев» — В. Назарава, У. Чарнышова, І. Тапіліна, А. Чартовіча, А. Верашчагіна, А. Мацвейчука, мастакоў па касцюмах — Л. Гарохавай, І. Грышан, А. Грыбавай, Н. Жыжаль, Э. Сямёнавай.

Здольнасць глыбока пранікаць у драматургічную і рэжысёрскую задуму, нечакана, пасвойму рашаць творчыя задачы, якія перад мастаком ставіць кожны новы фільм або спектакль, сведчыць аб прафесійнай сталасці лепшых майстроў сцэнаграфіі.

**Барыс КРЭПАК**



А. ФАМІНА. Лялькі да спектакля «Жаўранак» (гран-пры выстаўкі).



Ю. ТУР. Эскіз дэкарацый да спектакля «Знак бяды».



Э. СЯМЁНАВА. Эскіз касцюмаў да мастацкага фільма «Ідзі і глядзі».



Я. ІГНАЦЬЕЎ. Эскіз да мастацкага фільма «Чужая бацькаўшчына».



А. МАЦЮШЭЎСКАЯ. Кадр з мультфільма «Слон».

**НАШ КАЛЯНДАР**

# ГУЧАЦЬ ТВОРЫ ШЫМАНОЎСКАГА

У сузор'і кампазітараў XX стагоддзя дастойнае месца займае выдатны польскі кампазітар Караль Шыманоўскі (1882—1937). Шматгранная дзейнасць творцы, піяніста, педагога і грамадскага дзеяча пакінула глыбокі след у развіцці музычнай культуры Польшчы. Творчасць К. Шыманоўскага ахоплівае многія жанры — ад фартэпіянных прэлюдый да музыкі буйных форм: опера, балет, кантата, вакальныя цыклы, інструментальны канцэрт.

З самага пачатку творчага шляху, будучы ў кампазітарскім аб'яднанні «Маладая Польшча», ён шукае новыя сродкі выразнасці ў сферы мелодыкі, гармоніі, формы, фальклору. Творчасць вялікага суайчынніка Фрэдэрыка Шапэна была для К. Шыманоўскага пуцяводнаю зоркай і зрабіла на яго вялікі ўплыў. Зварот да адметнага фальклору гураляў (жыхароў Татраў) натхніў кампазітара на напісанне твораў па матывах гэтага фальклору. Найбольш яркае ўвасабленне гэта набыло ў балеце «Харнасе».

Музыка К. Шыманоўскага часта гучыць у Польшчы, вядомая ў буйных музычных цэнтрах свету. Опера «Кароль Ражэр» пастаўлена ў Празе, балет «Харнасе» ў Парыжы (вядомым рускім балетмайстрам С. Ліфарам) і ў Празе. Скрыпічныя канцэрты выконваліся ў Барселоне.

Пад час прыезду К. Шыманоўскага ў Маскву з аўтарскімі канцэртамі (1933—34 гг.) яго захоплена прымала музычная грамадскасць. Даўняе сяброўства з рускімі музыкантамі А. Зілоці, Р. Гліэрам, С. Пракоф'евым, Г. Нейгаузам, С. Кусявіцкім пакінула глыбокі след у творчым жыцці польскага кампазітара. Лепшыя яго творы (III і IV сімфоніі, кантата «Стават Матер», скрыпічныя канцэрты, вакальныя цыклы) інтэрпрэтаваліся выдатнымі музыкантамі. Сярод іх піяністы А. Рубінштэйн, С. Рыхтэр, Г. Нейгауз, З. Джавецкі, скрыпачы П. Каханьскі, І. Сігеці і інш.

Натхнёная музыка К. Шыманоўскага гучыць і ў нашы дні на поўны голас. Вытанчаная лірыка, яркі меладызм, каларытная гармонія і багаты дар фантазіі ўвасобіліся ў яго адметнай музыцы. Вядомы савецкі піяніст і педагог, першы выканаўца многіх фартэпіянных твораў К. Шыманоўскага Г. Нейгауз сказаў пра яго: «Ягоная адухоўленасць, агромністае кола ідэй, жыццёвых запатрабаванняў,— усё гэта рабіла моцнае ўражанне. Ты міжволі падпадаў пад ягоны ўплыў».

Нядаўна канцэрт з твораў выдатнага польскага кампазітара адбыўся ў Камернай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У выкананні майстроў мастацтваў Беларусі прагучалі інструментальныя і вакальныя творы К. Шыманоўскага, слова аб якім сказала музыказнавец В. Савіцкая. У праграме ўдзельнічалі струнны квартэт Саюза кампазітараў БССР (Ю. Гершовіч, Т. Бознева, В. Баткіна, М. Шчарбакоў), скрыпач М. Гершовіч, спявачка Г. Лукомская, піяністкі А. Кузняцова, Н. Цёмкіна, Г. Каржанеўская.

**Генрых ВАГНЕР,**
**кампазітар.**

## НАШ КАЛЯНДАР

Арсенія Георгіевіча Астроўскага вядомы савецкі паэт Д. Кавалёў *назваў* сярод тых перакладчыкаў, якім беларуская літаратура абавязана сваёй папулярнасцю ў Расіі, па ўсёй нашай краіне. Гэта імя значыцца на вокладках дзесяткаў кніг беларускіх аўтараў, выдадзеных на рускай мове. Ім створана *сапраўдная бібліятэка* лепшых твораў нашай літаратуры, што палюбіліся шматнацыянальнаму савецкаму чытачу.

А. Астроўскі ўнёс значны ўклад ва ўмацаванне творчай садружнасці і асабістай дружбы паміж пісьменнікамі Ленінграда і Беларусі. Даўняму і вернаму сябру нашай рэспублікі 22 мая спаўняецца 90 гадоў. Пройдзены вялікі жыццёвы шлях. Сваю энергію і талент перакладчык бескарысліва прысвяціў служэнню літаратуры.

Нарадзіўся А. Астроўскі ў літоўскім горадзе Шаўляй, рос і вучыўся ў Кіеве, а з 1923 г. звязаў свой лёс з Ленінградам. Тут у 1928 г. ён скончыў Вышэйшыя курсы пры Інстытуце гісторыі мастацтваў, тут адбыліся першыя знаёмствы з праслаўленымі савецкімі літаратарамі.

# НЯСТОМНЫ ПЕРАКЛАДЧЫК

Дваццаць гадоў жыцця А. Астроўскі прысвяціў славутай «Библиотеке поэта», створанай М. Горкім. Ён прыйшоў у яе па рэкамендацыі Ю. Тынянава, быў сярод яе арганізатараў, а потым — рэдактарам.

У першыя ж дні вайны А. Астроўскі запісаўся ў апалчэнцы. Потым была Ленінградская блакада. У 1942—45 гг. працаваў на Ленінградскім радыё, рыхтаваў спецыяльныя перадачы Ваеннага альманаха, у выпуску якіх прымалі ўдзел В. Бергольц, А. Пракоф'еў, М. Браўн і іншыя вядомыя ленінградскія пісьменнікі: сваім патрыятычным словам яны ўзнімалі настрой савецкіх людзей, дапамагалі набліжаць светлы дзень перамогі.

Да беларускай літаратуры А. Астроўскі звярнуўся ў 1947 г., калі за плячыма быў багаты жыццёвы і творчы вопыт. Спрыяў гэтаму П. С. Кабзарэўскі, ураджэнец Беларусі. Аднойчы Павел Сямёнавіч прынёс свайму сябру зборнік апавяданняў таленавітага беларускага пісьменніка і папрасіў тэрмінова зрабіць пераклад. Нягледзячы на пярэчанне гаспадара кватэры, ён усё-такі пакінуў кнігу на яго стале. Апавяданні спадабаліся Астроўскаму. Пры чытанні ён пачаў у думках уяўляць, як асобныя фразы і эпізоды загучалі б на рускай мове, потым стаў рабіць паметкі і, нарэшце, захапіўся перакладам.

З таго часу ленінградскі перакладчык па-сапраўднаму зацікавіўся беларускай літаратурай. А. Пракоф'еў і П. Кабзарэўскі заахвочвалі яго да далейшай працы над перакладамі. Беларуская літаратура прыадкрыла перад А. Астроўскім новы свет. З увагі да псіхалагічных апавяданняў Я. Брыля і вершаваных радкоў П. Труса, напісаных з маладым запалам, нарадзілася захапленне і любоў



да ўсёй беларускай літаратуры, якая стала яго пастаяннай спадарожніцай. Вось ужо 40 гадоў служыць Астроўскі ў яе гонар і славу.

## ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ

# ЛЯ „СМАЖНЯЎ“ — ЧАРГА

**Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» гутарыць са старшынёй Дзяржаўнага Камітэта па працы БССР А. М. ФАМІЧОМ.**

**КАР.: — Я, мабыць, не памылюся, Анатоль Міхайлавіч, калі скажу, што Закон СССР аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці ва ўсіх нас выклікаў не толькі цікавасць, а нават і пэўную разгубленасць. Слова «прыватнік» заўсёды выклікала толькі негатыўную рэакцыю, гэта, маўляў, «не наш чалавек». Хоць, пагадзіцеся, мы таго прыватніка ніколі, бадай, не бачылі, ніколі не мелі з ім справы.**

**Ёсць людзі, якія ўспрынялі Закон амаль варожа. Чуваць ужо галасы: «Што гэта робіцца, вяртаемся да нэпа!»**

**А. Фаміч:** — Нічога агульнага з нэпам Закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці не мае. На сацыялістычнай аснове ён дазволіць не толькі прыцягнуць многіх людзей да канкрэтнай справы, але і ліквідаваць дэфіцыт у бытавых паслугах, таварах народнага ўжытку. Пры параўнаўча невялікіх аб'ёмах вытворчасці кааператыў можа больш гнутка абнаўляць асартымент у адпаведнасці з модай. Дзяржаўныя швейныя ці абутковыя фабрыкі, як вы ведаеце, перабудоўваюцца ў гэтай справе вельмі марудна.

**КАР.: — Зразумела, што ні тагачасныя дамарошчаныя нэпманаўскія буржуйчыкі, ні, тым больш, персанажы вядомых «Нататак следчага» Льва Шэйніна, узятыя з нэпманаўскага асяроддзя, асаблівай пачцівасці не выклікаюць. Але, мне здаецца, сёе-тое з «практыкі» нэпманаў можа і прывабіць. Хоць бы тая ініцыятыўнасць, уважлівыя, нават далікатныя адносіны да кліентаў. У чацвёртым нумары «Юности» за гэты год надрукаваны ўрывак з кнігі «Вандраванне ў розныя бакі» вядомага нашага драматурга Віктара Розава. Урывак гэты ўваскрашае дзіцячыя гады пісьменніка, якія акурат прыпалі на гады нэпа. Аўтар, між іншым, расказаў і такі эпізод. Назбіраўшы за год рубель, каб купіць падарунак маці ў дзень яе нараджэння, ён зайшоў у прыватную кандытарскую. Гаспадар пацікавіўся, каму хлопчык купляе столькі цукерак, і, пачуўшы, што — маці, паклаў у пакунак яшчэ і шакаладку «ад сябе». «Ты добры хлопчык, — сказаў ён, — перадай прывітанне тваёй маці». Хто-небудзь скажа — сурагат добразычлівасці? Можа, і сурагат. Можна западозрыць, што той гаспадар такім манерам хацеў прывабіць патэнцыяльнага пакупніка. Але, ведаеце, я б не меў нічога супраць, каб і мяне сёння так прываблівалі ў магазіне. Калі не «шакаладкай», дык хоць бы ветлівым словам**

**А. Фаміч:** — Што і казаць, асабістая зацікаўленасць — вялікая сіла. Мой сын спазняўся на працу і «схапіў» прыватнае таксі. Вадзіцель быў надзвычай ветлівы, адразу папрасіў звярнуць увагу на спідометр, каб не было ніякага падману пры разліку, спытаў, ці не хоча кліент выпіць ліманаду, папярэдзіўшы, што ён каштуе, як і ў магазіне. Па дарозе пацікавіўся, якую музыку ён любіць — класічную, эстрадную, песні? У машыне ёсць магнітафон з багатым выбарам запісаў... Вось вам узор сапраўднага сервісу.

**КАР.: — Цікава. Гэты ж шафёр, можа, ніколі больш не сустрэне вашага сына, дык, здавалася б, навошта яму было ўсё гэта рабіць?**

**А. Фаміч:** — Уладальнік машыны быў упэўнены, што пасажыр абавязкова раскажа пра такі сервіс знаёмым, а тыя сваім знаёмым і г. д. Так ствараецца станоўчае рэнамэ менавіта прыватнага таксі. Своеасаблівая рэклама — карыстайцеся толькі таксі «прыватнікаў на калёсах».

**КАР.: — Днямі бачыў тэлесюжэт пра іх работу, здаецца, з Эстоніі. Адзін з «індывідуалістаў» паскардзіўся, што таксісты «афіцыйныя» забараняюць прыватным спыняць машыны на іх стаянках. Баяцца канкурэнцыі?**

**А. Фаміч:** — Работы хопіць усім. У Мінску, напрыклад, каля 100 прыватных таксі на, калі не памыляюся, 1200 дзяржаўных. Да таго ж, прыватнікі працуюць толькі ў пятніцу, суботу і нядзелю.

**КАР.: — Чаму не больш, калі ёсць на іх попыт?**

**А. Фаміч:** — Не забывайцеся, што займацца прыватным, кажучы па-руску, «извозом», дазваляецца толькі ў свабодны ад працы час.

**КАР.: — Дык жа ёсць шафёры-пенсіянеры...**

**А. Фаміч:** — Дазвол на транспартнае абслугоўванне грамадзян уладальнікамі асабістых аўтамабіляў даецца дыферэнцыравана. У першую чаргу — асобам з добрым здароўем: зрокам, слыхам і г. д. Перавозка пасажыраў патрабуе ад шафёра высокай прафесійнасці, хуткай рэакцыі і г. д.

**КАР.: — Адным словам, як я разумею, створаны пэўныя абмежаванні, якія павінны стрымліваць тых прыватных таксістаў?**

**А. Фаміч:** — Я б не ўжываў гэтае слова. Прыняты правілы, якія павінны рэгуляваць індывідуальнае транспартнае абслугоўванне грамадзян.

**КАР.: — У *Законе* аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці ўстаноўлена кола асоб, якім дазваляецца займацца гэтай дзейнасцю: хатнія гаспадыні, інваліды, пенсіянеры, студэнты і навучэнцы, а таксама ўсе астатнія грамадзяне ў свабодны ад працы час. Ну, а калі, скажам, шавец, кравец, фатограф, цясляр, людзі іншых прафесій вырашаць развітацца з пастаяннай працай на дзяржаўным прадпрыемстве і перайсці, як кажуць, на «вольны» хлеб? Я сустракаў людзей, якія мараць пра гэта.**

**А. Фаміч:** — Яны б, мабыць, пашкадавалі. Такі чалавек быў бы пазбаўлены ўсіх сацыяльных выгод — не «ішоў» бы стаж, не аплочваліся б лісткі непрацаздольнасці. Закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці прыняты з такім разлікам, каб не дапусціць адтоку рабочай сілы з дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў. Праўда, фармуліроўка «ў свабодны ад працы час» — досыць расплывістая. Яе не вельмі цяжка абысці. Напрыклад, чалавек уладкоўваецца начным вартаўніком ці вахцёрам, а ўдзень шые штаны. Там ён карыстаецца ўсімі сацыяльнымі выгодамі, а тут мае яшчэ і немалы грашовы прыварак...

**КАР.: — Дык, можа, на здароўе?**

**А. Фаміч:** — Нельга з поўнай аддачай працаваць адначасова ў двух месцах. У дадзеным выпадку чалавек у дзяржаўнай установе выконвае свае абавязкі, як кажуць, збольшага, затое на прыватніцкай «пасадзе» ён сіл не шкадуе...

**КАР.: — Скажыце, Анатоль Міхайлавіч, на зацверджаным пераліку відаў індывідуальнай працоўнай дзейнасці пастаўлена кропка? Спіс гэты пашырацца не будзе?**

**А. Фаміч:** — Жыццё пакажа. Кропка пастаўлена толькі ў спісу забароненых відаў працоўнай дзейнасці. Ён апублікаваны.

**КАР.: — Ну добра, уявім на хвілінку, што мы з вамі арганізавалі кааператыўную кавярню — вас не крыўдзіць сама ідэя такой прапановы?**

**А. Фаміч:** — Кааператыў павінен складацца не менш чым з трох чалавек.

**КАР.: — Знойдзем трэцяга... Уявім, што нам пашанцавала — знайшлі памяшканне за не вельмі высокую арэндную плату, набылі абсталяванне. Але ж галоўнае — прадукты. Пагадзіцеся, накарміць адну сваю сям'ю і то не малы клопат. Трэба пастаяць у чарзе і за каўбасой, і за добрым мясам, і за іншымі прадуктамі (калі не ў Мінску, дык у Магілёве, Мазыры, Пінску). А тут у нас сто ці дзвесце едакоў...**

**А. Фаміч:** — Дзе набыць прадукты? На базары ці, заключыўшы дагавор з калгасам, саўгасам, нарэшце, з вяскоўцамі. Многія з іх трымаюць жывёлу на продаж.

**КАР.: — Дазвольце, Анатоль Міхайлавіч, вам не паверыць. Так, сапраўды, калгасу зараз дазваляецца, калі ён выканаў дзяржаўны план па продажы сельгаспрадукцыі, прадаваць лішак на базары. Але я памятаю сваю гутарку з адным з кіраўнікоў Дзяржаграпрома БССР, які без усялякіх дыпламатый сказаў — усе лішкі мы таксама будзем прадаваць дзяржаве, рэспубліка павінна выконваць і перавыконваць план. Што тычыцца калгаснікаў і рабочых саўгасаў, дык у іх калгас кантрактуе і мяса, і малако. Адмовіцца ад кантракта, павезці свінчо на базар ці прадаць кааперацыі? Хто, скажыце, захоча ўступаць у канфлікт са старшынёй калгаса?**

**А. Фаміч:** — У сельскай мясцовасці ў нас жыве каля 600 тысяч чалавек, якія не працуюць у саўгасах і калгасах. Гэта рабочыя-будаўнікі, меліяратары, чыгуначнікі, настаўнікі і інш. Многія з іх маюць падсобныя гаспадаркі і, мне здаецца, ахвотна ўстановяць эканамічныя кантакты з кааператыўнымі кавярнямі. Многае залежыць і ад кааператара. Трэба, як кажуць, паварушыцца, праявіць ініцыятыву.

**КАР.: — А ці не атрымаецца, што кааператары рэзка ўзнімуць цэны на прадукты? Многія цэнтральныя газеты абышлі рэпартажы з маскоўскай кааператыўнай кавярні на Крапоткінскай, дзе кліентам падаюць малочнае парасё коштам 60 рублёў порцыя. Дык за колькі яны тое свінчо купляюць на базары?**

**А. Фаміч:** — Попыт нараджае прапанову. Цэны ў кааператыўных кавярнях — з'ява аб'ектыўная. Адміністраваць тут нельга. Калі кааператары не будуць мець «навару», яны не змогуць «функцыяніраваць».

**КАР.: — Але ж гледзячы, які гэта навар. Пачуўшы па радыё рэкламу, я пазваніў у Мінскі кааператыў «Дачнік» з пытаннем, ці змогуць яны зрабіць такія і такія работы на дачным участку. Паскардзіўшыся, што ў іх няма ніякіх будаўнічых матэрыялаў, яны, тым не менш, свае паслугі прапанавалі, але назвалі пры гэтым цану, якая, я ведаю, удвая перавышае дзяржаўную.**

**А. Фаміч:** — Я зноў паўтараю: усё вырашае попыт. Устанаўліваць расцэнкі — значыць, загубіць новую справу на [illegible]рані. Што тычыць скаргі гэт[illegible] кааператараў, што ў іх няма ці не хапае будаўнічых матэрыялаў, дык выканкомы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, *прадпрыемствы, установы* і арганізацыі па заяўках асоб, якія маюць рэгістрацыйныя пасведчанні або патэнты на занятак індывідуальнай працоўнай дзейнасцю, прадастаўляюць ім ва ўстаноўленым парадку ў арэнду памяшканні і іншую маёмасць, дапамагаюць набываць сыравіну, матэрыялы, інструменты... Да іх аплаты аддзяленнямі Дзяржбанка выдаюцца крэдыты. Савет Міністраў БССР абавязаў выканкомы абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных распрацаваць і па ўзгадненні з Міністэрствам гандлю і Белспажыўсаюзам зацвердзіць пералік і нормы продажу тавараў павышанага попыту грамадзянам для занятку індывідуальнай працоўнай дзейнасцю. У рэспубліцы ствараюцца спецыялізаваныя магазіны па продажы адходаў вытворчасці мэблевай, тэкстыльнай, швейнай і іншых галін прамысловасці. Шэраг такіх магазінаў ужо працуе ў Мінску, Гродне, Гомелі і іншых гарадах і раённых цэнтрах рэспублікі.

**КАР.: — Акурат сёння раніцой я слухаў па радыё інтэрв'ю з кіраўніком аднаго з будаўнічых кааператываў, які скардзіўся на тое, што набыць будаўнічыя матэрыялы амаль немагчыма. Я не запомніў, якія канкрэтна дзяржаўныя арганізацыі ён называў, але вуха разанулі такія яго словы: «Мы ім далі ўжо некалькі заявак на матэрыялы, а яны нам кажуць — пішыце, пішыце, мы вашы паперы будзем складваць у шуфляду»...**

**А. Фаміч:** — Чыноўнікаў, бюракратаў яшчэ ў нас хапае. Перабудова ім не даспадобы. І грамадзянам, якія вырашылі прысвяціць сябе індывідуальнай працоўнай дзейнасці, прыйдзецца пераадольваць немалыя перашкоды.

А. Астроўскі неаднаразова наведваў Беларусь. Вялікае ўражанне пакінула на яго сталіца нашай рэспублікі. Ён прымаў удзел у рабоце пісьменніцкіх з'ездаў, пленумаў, у сімпозіуме перакладчыкаў беларускай літаратуры (1973). У яго ўсталяваліся асабістыя кантакты з беларускімі пісьменнікамі, а з многімі нашымі літаратарамі склалася шчырая дружба.

Перакладчык быў актыўным удзельнікам тыдняў, дзён і вечароў беларускай літаратуры ў горадзе на Няве. З яго вуснаў творы беларускіх пісьменнікаў гучалі на многіх праслаўленых ленінградскіх прадпрыемствах, на якіх даводзілася неаднаразова выступаць разам са сваімі беларускімі сябрамі.

Такая дзейсная любоў да беларускай літаратуры прынесла плённыя поспехі. У творчым актыве Арсенія Георгіевіча 8 тамоў перакладаў толькі твораў І. Шамякіна. З натхненнем ім перакладзены апавяданні, аповесці і раманы Я. Коласа, Ц. Гартнага, К. Чорнага, В. Віткі, Я. Брыля, А. Кулакоўскага, М. Ткачова, Я. Скрыгана, І. Навуменкі, В. Хомчанкі, М. Ракітнага, байкі, вершы і паэмы П. Труса, К. Крапівы, П. Броўкі, А. Пысіна, У. Корбана, Н. Гілевіча, М. Аўрамчыка, А. Русецкага і інш. Жывы інтарэс выклікала ў Астроўскага маладая беларуская літаратура. Ён адным з першых адкрываў усесаюзнаму чытачу Я. Сіпакова, В. Карамазава, Б. Сачанку, А. Жука, У. Паўлава, Я. Радкевіча. Даволі прадстаўнічы спіс, які сведчыць аб значных выніках падзвіжніцкай працы перакладчыка.

Нягледзячы на свой шаноўны ўзрост, А. Астроўскі працягвае ўважліва сачыць за літаратурным жыццём Беларусі. Тонкі мастацкі густ дапамагае яму зразумець і ацаніць годнасць кожнага новага твора.

У перакладзе А. Астроўскі перадае своеасаблівасць творчай манеры пісьменніка, нацыянальны каларыт арыгінала. Яго пераклады зроблены на добрым прафесійным узроўні і заўсёды знаходзяць шырокую чытацкую аўдыторыю.

У 1973 г. А. Астроўскаму за заслугі ў галіне мастацкага перакладу і вялікую работу па прапагандзе беларускай савецкай літаратуры прысвоена званне заслужанага работніка культуры Беларускай ССР.

Прыемна адзначыць, што А. Астроўскі па-ранейшаму поўны энергіі, новых планаў і задум. «На «недагрузку» скардзіцца не магу,— пісаў ён у адным з лістоў.— Прыйдзецца папрацаваць. Але ж і без работы вельмі сумна. Так што я ніколькі не скарджуся на лёс». Чытаў гэтыя радкі і ўяўляў, як молада, з хітрынкай-жывінкай свецяцца ўважлівыя вочы Арсенія Георгіевіча.

**Цімох ЛІЯКУМОВІЧ.**

---

**КАР.: — Вы заўважылі, Анатоль Міхайлавіч, я амаль не задаю вам пытанняў, якія тычацца самой працэдуры атрымання патэнтаў ці рэгістрацыйных пасведчанняў, што даюць дазвол на занятак гэтай дзейнасцю. Пра ўсё гэта неаднойчы друкавалася ў газетах. І ўсё-такі шмат што застаецца за Законам, шмат што застаецца незразумелым. Напрыклад, у Законе нічога не гаворыцца пра межы заробку «прыватнікаў». Я неаднойчы ўжо чуў размовы пра тое, што хутка, маўляў, у нас з'явяцца свае мільянеры. Хай гавораць? Акадэмік Т. Заслаўская пісала, што якімі б ні атрымаліся заробкі, наша боязь, што нехта зарабіць надта многа, можа ператварыцца ў рэальны фактар, які затармозіць, стрымае тэмпы развіцця індывідуальнай працоўнай дзейнасці.**

**А. Фаміч:** — Ну, наконт «мільянераў», дык гэта з галіны фантастыкі. Я б не сказаў, што заробкі нашых кааператараў занадта высокія — 250—300 рублёў у месяц. Але ж улічыце, што ў іх не 8-гадзінны працоўны дзень, як у нас, а намнога даўжэйшы. Я лічу, што калі хто можа зарабіць больш — калі ласка. Гэтыя грошы — працоўныя.

**Кар.: — Я чытаў, што кааператыўныя кавярні, цырульні, фатаграфіі, рамонтныя майстэрні будуць утварацца пры адпаведных прадпрыемствах — рэстаранах, упраўленнях бытавога абслугоўвання і г. д. Якія паміж імі будуць сувязі, кантакты? Ці не атрымаецца, што тыя «зверху» будуць сачыць за кожным крокам кааператараў, дыктаваць ім?**

**А. Фаміч:** — Не. Скажам, рэстаран можа прапанаваць кааператыўнай кавярні на ўзаемавыгадных умовах рэалізоўваць пэўныя стравы і г. д.

**КАР.: — Я неяк зайшоў у кавярню «Svіцязянка», што на вуліцы Сурганава ў Мінску. Тады тут працавала на сямейным падрадзе сям'я Алега Аляксандравіча Шайко. Ён мне высыпаў сто скаргаў на кіраўнікоў рэстарана, ад якога працуе. Усе яго ініцыятывы, напрыклад, такая — стварыць кавярню для спартсменаў, каб яны збіраліся тут за кубкам кавы, сустракалі адмоўную рэакцыю. Ён быў ужо і спецыяльныя плакаты, малюнкі набыў. Ды не дазволілі іх вывесіць, маўляў, сапсуюць сцены. А ў адзін з дзён наляцела АБРСУ і пачало правяраць, ці не дабаўляюць тут у сок ваду. Яно не разумее, што там, дзе працуюць на падрадзе, галоўная задача — прывабіць кліента, а зрабіць гэта можна толькі добрым, смачным пачастункам.**

**А. Фаміч:** — З гэтым можна пагадзіцца. Я думаю, што якасць прадукцыі, паслуг у тых кааператывах ці ў «прыватнікаў» будзе не горшая, чым у дзяржаўнага прадпрыемства.

**КАР.: — А мо і лепшыя, бо тут зацікаўленасць большая, на карту пастаўлены прэстыж «фірмы».**

**А. Фаміч:** — Кааператыў — гэта арганізацыя, дзе самаакупляльнасць, самафінансаванне — аснова асноў. У гэтым сэнсе — прыклад для дзяржаўнага прадпрыемства.

**КАР.: — На дзяржаўным прадпрыемстве за якасцю прадукцыі сочаць шмат людзей — у аддзеле тэхнічнага кантролю, а цяпер і ў дзяржпрыёмцы. А ў кааператыве, у прыватніка?**

**А. Фаміч:** — Тым, хто вырашыў заняцца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю, прад'яўляюцца пэўныя кваліфікацыйныя патрабаванні, што ўжо само па сабе ў пэўнай ступені гарантуе якасць тавараў і абслугоўвання. Напрыклад, у сферы мастацтва — пры навучанні ігры на музычных інструментах, танцам і г. д. патрабуецца вышэйшая або сярэдняя спецыяльная адукацыя, або членства ў творчым саюзе. Высокія патрабаванні прад'яўляюцца і ў сферы фізічнай культуры і спорту, у рэпетытарстве, перакладзе на замежную мову і г. д. Але галоўны кантралёр якасці — кліент, пакупнік. Яго не падманеш. Не спадабаецца — больш не прыйдзе, больш не купіць. Калі б, скажам, у кааператыўнай кавярні «Смажні» ў Мінску гатавалі нясмачна, — тут бы не было пастаянных чэргаў.

**КАР.: — Я гутарыў з намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкома, старшынёй камісіі па арганізацыі індывідуальнай працоўнай дзейнасці Я. Засадычам. Яго непакоіла і такая праблема — канкурэнцыя, якую створаць кааперацыя і «прыватнік» дзяржаўнай вытворчасці, дзяржаўнаму гандлю, дзяржаўнаму бытавому абслугоўванню.**

**А. Фаміч:** — Гэтая канкурэнцыя прымусіць дзяржаўныя ўстановы працаваць якасна, зніжаць сабекошт прадукцыі. А ўвогуле, я вам скажу, значнай канкурэнцыі дзяржаўнай эканоміцы кааператары і «прыватнікі» стварыць не змогуць. Не тыя прапорцыі. За імі — усяго адзін працэнт ад усяго аб'ёму вытворчасці. Усе віды індывідуальнай працоўнай дзейнасці грунтуюцца на асабістай працы чалавека і членаў яго сям'і. Наёмная праца — аснова прыватнага прадпрымальніцтва — катэгарычна забаронена. Так што ні пра якое вяртанне да неўласцівай сацыялізму дзейнасці не можа быць і гаворкі. Індывідуальная працоўная дзейнасць будзе ажыццяўляцца на прынцыпах другаснай занятасці, г. зн. захоўваецца непасрэдная сувязь з грамадскай вытворчасцю.

**КАР.: — Не вельмі зразумела, як кааперацыя ці «прыватнік» будуць вызначаць характар сваёй прадукцыі ці паслуг. Можа здарыцца такое, што прадукцыя, якую яны сёння выпрацоўваюць, заўтра не спатрэбіцца, не знойдзе попыту. Вы ж ведаеце, як у нас бывае — сёння ў магазіне нечага няма, а заўтра, бачыш, ужо завезлі. Вось і з тымі прыватнымі таксі. А што, калі заўтра-паслязаўтра Мінску дадуць яшчэ сотню-другую дзяржаўных таксі? Помніце, як у «Залатым цяляці» Ільфа і Пятрова не вельмі ўдалы прадпрымальнік Казлевіч, сабраўшы з ламачча аўтамабіль, каб вазіць на ім маскоўскіх пасажыраў, праз дзень ужо быў крайне расчараваны — у Маскву прыбыла вялізная партыя замежных таксаматораў, і беднаму Казлевічу давялося ўцякаць на перыферыю.**

**А. Фаміч:** — У Законе прадугледжаны розныя формы кааперацыі асоб, якія вядуць індывідуальную працоўную дзейнасць, іх дагаворных адносін з дзяржаўнымі і грамадскімі прадпрыемствамі. Ніякай анархіі, стыхійнага развіцця не будзе. Тое, што з'яўляецца сёння дэфіцытам, будзе яшчэ дэфіцытам, думаю, і заўтра, і паслязаўтра. Асабліва ў сферы паслуг, дзе попыт не задавальняецца па краіне на мільярды рублёў. Індывідуальная працоўная дзейнасць арганічна ўвойдзе ў сістэму грамадскай вытворчасці, будзе сумяшчацца з прынцыпамі сацыялістычнай эканомікі.

**КАР.: — Як будзе рэалізоўвацца прадукцыя кааператываў і «прыватнікаў»?**

**А. Фаміч:** — Непасрэдна на рынку або праз магазіны камісійнага гандлю сістэмы Міністэрства гандлю і Белкаапсаюза. Тыя, хто знаходзіцца ў дагаворных адносінах з прадпрыемствам, установай, арганізацыяй, здаюць прадукцыю на ўмовах, вызначаных у дагаворы. Рэалізацыя вырабаў традыцыйнага народнага, дэкаратыўна-прыкладнога і твораў выяўленчага мастацтва можа ажыццяўляцца на выстаўках-продажах і ў іншых спецыяльна адведзеных для гэтага месцах.

**КАР.: — Ці можна прагназіраваць развіццё індывідуальнай працоўнай дзейнасці ў нашай рэспубліцы?**

**А. Фаміч:** — У канцы 1986 года органамі па працы быў праведзены ўлік незанятага працаздольнага насельніцтва ў грамадскай вытворчасці рэспублікі. Гэты ўлік даў магчымасць выявіць каля 6 тысяч грамадзян, якія б хацелі займацца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю. У асноўным гэта жанчыны, занятыя ў хатняй і асабістай падсобнай гаспадарцы, выхаваннем дзяцей, пенсіянеры і інваліды. Сюды трэба яшчэ аднесці, як паказваюць папярэднія дадзеныя, яшчэ столькі ж грамадзян, якія заняты ў грамадскай вытворчасці. Мы лічым, што ў далейшым індывідуальная працоўная дзейнасць будзе яшчэ больш развівацца.

**КАР.: — Галоўнае — дапамагчы ўмацавацца пакуль яшчэ кволым парасткам. Дзякуй, Анатоль Міхайлавіч, за змястоўную гутарку.**

**Правёў гутарку М. ЗАМСКІ.**

---

**НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ**

# ...І ЗАСПЯВАЛА ШКОЛА

Рыгор Шырма любіў паўтараць словы выдатнага рускага педагога К. Ушынскага — «Заспявала школа — заспявае народ» — і дадаваў: «Як рака бярэ пачатак ад падземных крыніц і разліваецца шырокім морам на сонечных прасторах, так і мастацтва харавога спеву пачынаецца за школьнай партай і пасля пераліваецца за парог школы і пульсуе разам з жыццём народа. Гэта вялікая, кардынальная, сапраўды ўсенароднага дзяржаўнага значэння задача мінскай сярэдняй школы № 150 з музычным (харавым) ухілам, якая змагаецца за права насіць імя песняра зямлі беларускай Р. Шырмы, ажыццяўляецца на практыцы. Тут існуе зараз сем хораў: першых, другіх і трэціх класаў, піянерскі, хор старшакласнікаў «Іскарка», канцэртны — «Ветрык», хор настаўнікаў. Толькі летась адбылося больш за трыццаць выступленняў харавых калектываў школы ў мікрараёнах горада, у працоўных калектывах і падшэфных дзіцячых садах. Харавыя калектывы слухалі воіны Савецкай Арміі і шматлікія экскурсанты двух школьных музеяў, у тым ліку замежныя турысты.

Творчая дружба завязалася ў вучняў 150-й школы са сваімі равеснікамі з Масквы і Адэсы, Венспілса, Мукачава, Пружан і з вёскі Новы Двор Мінскага раёна. У школе рэгулярна адбываюцца творчыя сустрэчы з шэфамі — беларускімі кампазітарамі і музыказнаўцамі, а таксама пісьменнікамі і паэтамі, выканаўцамі-вакалістамі і інструменталістамі. Хлопчыкі і дзяўчынкі жывуць паўнакроўным, змястоўным творчым жыццём. Можна сказаць, што сапраўды творчы працэс тут — штодзённая праца. Бываюць тут і свае святы. Адно з такіх святаў, якое традыцыйна адзначаецца штогод, — дзень нараджэння Р. Шырмы. Да яго і вучні, і настаўнікі рыхтуюцца асабліва старанна, імкнучыся адзначыць новымі творчымі поспехамі.

Сёлета ў школе святкавалі 95-годдзе з дня нараджэння Р. Шырмы. Па традыцыі было шмат гасцей, сярод якіх дачка Рыгора Раманавіча — Алена Рыгораўна. Удзельнікам свята былі дзеячы беларускай культуры, якія добра ведалі Шырму, працавалі разам з ім, вучыліся ў яго шанаваць родную культуру, родную песню.

Тон святу задало выступленне вялікай фальклорнай групы, у склад якой увайшлі вучні розных класаў — спевакі, танцоры, баяністы (кіраўнікі груп — настаўнікі Н. Варашылава, З. Бакіноўская, Б. Рольбін, В. Саітаў). Дзяўчаты вадзілі карагоды і спявалі цудоўныя беларускія вяснянкі. Плаўныя прыгожыя рухі, выразныя спевы з элементамі імправізацыі, сама манера выканання сведчылі пра тое, што да народнай песні тут ставяцца па-шырмаўску — з павагай, разуменнем, тактоўна і адказна.

Прыкметна вырас і выканаўчы ўзровень хору «Ветрык» (кіраўнік В. Дабравольская). Больш роўным і гнуткім стала гучанне асобных груп, чысцінёй і выразнасцю вызначаецца інтаніраванне. У выкананні хору прагучалі творы кампазітараў Ю. Семянякі, Л. Свердзеля, Б. Сняткова.

І зноў загучалі народныя песні, але на гэты раз у выкананні хору «Дударыхі» калгаса імя У. І. Леніна з Пінічыны. З гэтым калектывам у час летняй фальклорнай экспедыцыі пазнаёмілася В. Дабравольская, якая запрасіла калектыў выступіць у школе. Удзел «Дударых» у канцэрце быў прыемным сюрпрызам не толькі таму, што ўсе прысутныя змаглі пачуць беларускія народныя песні розных жанраў, так сказаць, «з першых вуснаў», але і таму, што адну з песень гэтага хору — «Ды араў мужык ля дарогі» — кампазітар Л. Свердзель апрацаваў менавіта для «Ветрыка». Таму вельмі сімвалічна прагучаў апошні нумар канцэртнай праграмы, калі гэту песню калгасніцы і вучні заспявалі разам, нібыта пацвярджаючы неабходнасць сувязі пакаленняў у справе захавання духоўнай спадчыны народа.

Школай зроблены няхай невялікі, але зусім рэальны крок наперад на шляху эстэтычнага выхавання сваіх вучняў. Набыта яшчэ адна крупінка станоўчага вопыту, якога ў школе за гады яе існавання назапашана ўжо шмат. Вопыт гэты трэба пашыраць, тым больш, што ў цэлым па рэспубліцы ў справе эстэтычнага выхавання моладзі яшчэ шмат хібаў і ўпушчэнняў.

**Т. ВАРФАЛАМЕЕВА,**
**музыказнавец.**

---

# СЛУХАЛІ ВІЦЯБЧАНЕ

**Надзвычай цёплае, светлае пачуццё павагі, захаплення, я б нават сказала — пакланення, выклікала выступленне юных музыкантаў з Мінска, якое прайшло ў Віцебскім музычным вучылішчы. Канцэрт вёў музыказнавец Анатоль Парэцкі.**

**Прыемным сюрпрызам быў удзел у канцэрце вядомага кампазітара Генрыха Вагнера. Мы прывыклі слухаць яго творы па радыё, і раптам — на сцэне сам кампазітар, чые песні палюбіліся дзецям. Прысутныя захоплена апладзіравалі аўтару, які ў ансамблі з юным піяністам Юрам Бліновым сыграў частку свайго Канцэрта для фартэпіяна з аркестрам. Нягледзячы на немалады ўзрост, кампазітар прыехаў у наш горад, каб прынесці радасць людзям.**

**Добрыя традыцыі беларускага музычнага мастацтва паспяхова прадаўжае наша юнацтва. Гучалі ў канцэрце творы юных кампазітараў. Я, на жаль, не запомніла прозвішчаў «юных Моцартаў», як сказаў А. Парэцкі, але ўспрыняла з захапленнем іх творы. І яшчэ: цяжка пераацаніць ролю лектараў-музыказнаўцаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі А. Парэцкага і М. Казініка ў эстэтычным выхаванні моладзі. Кожны з іх праводзіць лекцыі ў адметнай манеры: М. Казінік — з вялікай экспрэсіяй, артыстызмам, А. Парэцкі — больш стрымана, строга прытрымліваючыся тэмы. Ды абодва далучаюць нас да цудоўнага. Вялікі ім дзякуй. На канцэртах з удзелам нашых музыказнаўцаў змаўкаюць нават самыя гарачыя прыхільнікі «лёгкага» жанру. Шкада толькі, што выступленні музыказнаўцаў дрэнна рэкламуюцца: не развешваюцца афішы, хоць на абанементных канцэртах у залах заўсёды ёсць свабодныя месцы. Упэўнена: многія аматары музыкі з задавальненнем купілі б білеты і наведалі гэтыя канцэрты. Цудоўнае зразумела ўсім. Трэба толькі даць яму дарогу.**

**М. ШАПІРА,**
**урач.**

г. Віцебск.




Павел МІСЬКО

# СВЯТА Ў ЦЫМБАЛЬСКУ

**(Па тэлефоне ад нашага карэспандэнта)**

Меламаны горада Цымбальска, уся культурна-музычная грамадскасць маладога беларускага горада перажылі ўчора радасць свята сапраўднага мастацтва. Ансамбль ударных інструментаў, вылучаны з трэскам з народнага сімфанічнага аркестра (саліст на вялікім барабане маэстра Ігнасій Непачаткоўцаў), выканаў новы твор «Абяцанкі-цацанкі» заслужанага самадзейнага кампазітара Іягана Севасцянавіча Буха.

Адбылося выдатнае творчае спаборніцтва кампазітара і выканаўцаў, але ў гэтым паядынку ніхто не мог вызначыць пераможцу і пераможанага. На канцэрце прысутнічаў сам І. С. Бух. Ён, мусіць, быў узрушаны да глыбіні душы, бо доўга не мог ачуняць пасля канцэрта, хоць яго спачатку далікатна катурхала і крапіла вадою з рота прыбіральшчыца тав. Н., а потым прынесла з аптэчкі нашатырны спірт.

На пытанне Вашага карэспандэнта І. С. Бух адказаў, што ён сапраўды ўзрушаны да глыбіні душы тонкай, далікатна-валюнтарысцкай інтэрпрэтацыяй твора, у які ён, аўтар, уклаў пульсацыю нашага імклівага часу — бурнага, багатага на драматычныя супярэчнасці і ўсплёскі пачуццяў, якія мяжуюць са стрэсамі.

Так! — мы слухалі гэтую спружыніста - мускулістую музыку, гэты культ арытміі сэрца і дысгармоніі, мелодыкі душэўнага трэпету і хвалявання. Прыемна здзіўляла і ўзрушала-радавала тая нязмушаная лёгкасць і натуральная пахаплівасць у лепшым сэнсе гэтага слова, з якімі Іяган Севасцянавіч Бух браўся за самыя складаныя музычныя формы. Цяжка, нават немагчыма з першага праслухоўвання вызначыць жанр паказанага твора. Так! — гэта быў не чарговы, загнаны жывасілам пад №№ опус, не капрыс кампазітара. Спрактыкаванае вуха магло б знайсці тут матывы спрошчаных да крыштальнай яснасці старажытных рычэркара-матэта, было нешта тут і ад сусветна вядомых сваім светлым роздумам і настраёвасцю баладрандо Праганіні і Саўралсатэ, водгулле рытмаў біг-бітаў і абрадавых завыванняў племя цапу-лапу з Сярэдняй Афрыкі, якія выконваліся на малых там-тамах. Але яны праходзілі досыць глыбока, недзе пятай ці шостай тэмай-пластом, пацвярджаючы агульначалавечую значымасць твора.

Можна з поўнай падставай сказаць, што мы прысутнічалі пры нараджэнні новай, яшчэ невядомай формы твора, гэткай «бухіяны», у якой аўтар шчодра прадэманстраваў рытмічнае багацце сваёй паўлітры [1].

Два словы аб інтэпрэтацыі-выкананні інструментальным ансамблем гэтага твора. Ужо з першых удараў літаўраў і малога барабана зала падпарадкавалася таямнічай магіі майстэрства, а па спінах слухачоў сыпануў мароз. Усіх узяў за душу, запалоніў сваёй выключна віртуёзнай тэхнікай ігры на вялікім барабане саліст Ігнацій Нечэпатковец. Не было абсалютна ніякага месца для буржуазна-аслабляючых п'яна-п'янісіма, злёгку дэташэ і спіката. Выконвалася ўсё толькі туццi фарцiссiма з безліччу фарбаў, нюансаў і адценняў ва ўсіх рэгістрах.

Усе тры традыцыйныя часткі твора былі аб'яднаны скразной лініяй развіцця, але радавала ў гэтай сэнсавай стыхіі безліч тэмбравых кантрастаў. Віртуёз Ігнат Незачатковец выразна і выпукла даносіў жыццёвую сілу, народны каларыт невядома якога народа, дынаміку і рэльефнасць твора. Валодаючы інструментам артыстычна да геніяльнасці, ён умудрыўся нават самыя нязначныя нюансы «Абяцанак-цацанак» данесці да апошніх радоў галёркі і не расплюскаць, не згубіць ні кроплі. Прытым пяшчотнасць і празрыстасць, поўная неперадавальнасць словамі настрояў-роздумаў другой тэмы некалькі апераджалі вар'ятозы першай тэмы.

Умерана заастраючы ўвагу на дэталях, падкрэсліваючы «маторнасць», патэтыку і драматызм музыкі, Ігналік Непачаткоўскі імкнуўся падаваць усё, не пабаюся тут паўтарыцца, буйным планам.

Задаволена разыходзіліся, разбягаліся і раз'язджаліся слухачы (некаторыя, узрушаныя, з сярэдзіны праграмы). Грамадскага транспарту, як і заўсёды, не хапала (куды глядзіць гарсавет?!), і да ганка Дома народнай культуры былі пададзены дваццаць тры карэты «хуткай дапамогі». Але і ў тых, што знайшлі сілы пакарыстацца грамадскім транспартам, яшчэ доўга гучалі ў вушах сталёвы рытм, спружынная магутнасць ігры: строгая логіка броўнавага руху, вытрыманая з жалезнай паслядоўнасцю ад першага да апошняга такта.

[1] Магчыма, гэтае слова трэба было запісаць як «палітры», але з-за дрэннай чутнасці стэнаграфістка не змагла ўдакладніць (заўвага рэд.).

## ФРАЗЫ

З надыходам тэлевізійнай эры мы атрымалі магчымасць знаёміцца з дапатопнымі фільмамі.

●

Ці трэба звяртацца да касметолагаў пры адсутнасці творчага твару?

●

Не толькі ў навукова-фантастычных творах сустракаюцца ходкія штампы.

М. ШЛЯФЕР.

Мікола СІСКЕВІЧ

### Размова

— Скажы мне, дружа,
па сакрэту,
а ты ці перабудаваўся? —
спытаў Івана Бацянок
Хвядос...
— Што адказаць табе на
гэта?
Каб вуліца была відна ўся,
З намеснікамі яшчэ летам
Я стол службовы перанёс
У левы вугал кабінета.

### Зухаваты лектар

Быў лектар хвацкі, зухаваты,
Не лез па слова у кішэнь,
За пазухай насіў цытаты
Ад Цэзара і да Сакрата,
Як «свежы» хлеб... на чорны
дзень.

Валянцін ЧЭМЕРЫС

## ДЫЯЛОГІ

— У маёй дысертацыі ажно сто сорак восем крыніц, — пахвалілася Выдра.

— Дык вось адкуль у ёй столькі вады,— уздыхнуў апанент Янот.

●

— Каго паставіць адказным за вырошчванне дрэў?

— Ды, думаю, што Пілу. Дрэвы яна добра ведае і на іх, як кажуць, усе зубы з'ела.

Пераклаў з украінскай
М. БАЗАРЭВІЧ.

## ДЗІВАК-ЧАЛАВЕК...



Мал. А. ПАПОВА.

Георгій ЮРЧАНКА

## СПАТКАННЕ

Паводле Віктара СУПРУНЧУКА

Адвячорак ахапіў сінімі крыламі Падвэрб'е і пацёг свае шаты на Перасмыкі. У Качарэжышчы выспеўвалі жабы, а ў Бязменаўі чулася свіное пішчо.

Саракадзевяцігадовы здаравяк Салвэсь надзеў шэры касцюм мадагаскарскага гатунку, потым апрануў палінезійскую кашулю. Нарэшце ўсклаў гальштук, паглядзеўся ў люстэрка і пахваліў самога сябе:

— Які гжэчны кавалер!

Не спяшаючыся, адваліў кус хлеба, з'еў локшыны з таўканінай і запіў ашчавелым малаком. Карову ён даіў сам. Думаў у хуткім часе прывесці за гаспадыню Адэлю. Пад'еўшы, нецярпліва чакаў, калі супыніцца рух на Ячнай вуліцы. Але рух не змяншаўся. Дзямян Дмухавец вёў жараб'ё. Сідар Суканец цягнуў бычанё, трымаючы за левы рог і за хвост. Кудысь праклыпаў Парамон Неаседлы.

Нарэшце вуліца аціхла. Салвэсь выйшаў за брамку, азірнуўся і пашыбаваў да Званарнага ручая, куды на тым тыдні ўгаварыў прыйсці Адэлю. Ён уяўляў, як сустрэне каханую. Адчуваў яе пагляд. Яна маладая, у самым саку, нібы антонаўка. Ёй зусім нядаўна пераваліла за сорак, і яна па-сапраўднаму яшчэ не адчула мужчынскай ласкі.

Туды ж кіравала і Адэля. Яе душа напялася, нібы падстрэленая птушка. Усю істоту казытала раздвоенае пачуццё: душа супраціўлялася, хацела павярнуць назад, а ногі неслі да Салвэся. Як у вір галавой, укінулася яна ў двайное каханне. Салвэсь бліжэй, а Стэпан далей, але лучыць ёй вачамі прама ў сэрца.

Ёй хацелася замуж. І ведала, што Салвэсь гатовы яе ўзяць. Але пайсці за яго не дазваляла сумленне.

А вось і ручай. У прыцемку хіснулася ладная Салвэсева постаць. Адэля падышла задыханая, у расхлістаным паліто на простай сітцавай сукенцы.

— Салвэсько,— ледзь не прастагнала Адэля.— Нэшчо нам трэбо гэты споткань? Ты ж сам вэдаеш, шчо я ўчора сустракалася со Стэпаном.

— Шчо ты кажаш, мая зозулька! Вон тэбэ чужы,— спрабаваў пераканаць Салвэсь.— Я ж тэбэ нічога дрэнаго нэ зроб'ю, моя вішэнка. Я хочу, моя лыбідочка, каб було по-людзку!—выгукнуў ён з болем у голасе.

Асцярожна прыгарнуў Адэлю і адчуў, як дрыжыць яе цела, як патыхае ад яе цяплом.

Адэля нічога не сказала, павярнулася і шпарка пабегла за Грындзелевы кусты. Там, яна ведала, на шырокім ліповым пні сядзіць Стэпан, лысы бэйбус з тоўстымі, мокрымі губамі. Ён будзе глядзець цыганскімі вачыма забіяцка і ўсмешліва.

— Якая ж я развэра! — думала Адэля, спяшаючыся да ліповага пня.

За тры кусты ад пня ёй нібы перахапіла дыханне. Вочы зазіхацелі радасцю і шчасцем. Хоць ведала, што Стэпан не возьме яе замуж.

Той сапраўды сядзеў на шырокім пні. Яна, нібы звар'яцелая, пачала цалаваць яго вочы, лоб. Разгарачанымі вуснамі прыклалася да тоўстых мокрых губ.

— Таму шанцуе, каго дзеўка цалуе! — голасна зарагатаў Стэпан.

— Стэпанко, нагошто ты гэнак кажаш! — Адэля ледзь не плакала.— Я хочу з табой па-доброму жыць. Нам жэ нэ будэ погано разом, га, Стэпанко,— лашчылася да яго, нібы нявеста.

— А ў мяне няўжыўчывы характар,— зноў зарагатаў Стэпан і абняў яе за шыю. Рука ў яго была мокрая і слізкая, нібы ў кісялі.— Нэ той час тэбэ слухаць. Оно ты вэдаеш: на шыю мне сэсты хочэш.

Адэля разумела, што Стэпан можа вычвараць усё, але адысці ад яго нібы не мела сілы.

А ля Званарнага ручая горкімі слязьмі плакаў Салвэсь, ірвучы на грудзях палінезійскую кашулю.




З 25 ПА 31 МАЯ

25 мая, 18.45

V УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА.
Выступае народны ансамбль песні і танца «Ніва» калгаса «Прагрэс».

26 мая, 17.40

«РВАЦЬ ЛАНЦУГ ЦЕМНАТЫ...».
Будзе расказана пра львоўскі перыяд жыцця Цёткі.

27 мая, 18.20

«РОДНАЕ СЛОВА».
У перадачы прымаюць удзел загадчык аддзела Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ М. Жылінскі, мовазнаўцы — доктар філалагічных навук прафесар М. Яўневіч, кандыдат філалагічных навук Г. Вештарт, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Беларусь» А. Вячорка.

27 мая, 20.20

«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ».
Л. Шлег. Вакальна-сімфанічнае дзейства «Загуканне вясны».

28 мая, 18.15

«СПАДЧЫНА».
Сустрэчы на Палессі.

29 мая, 23.05

«НАКЦЮРН».
Творы К. Шымаоўскага выконвае піяністка Е. Цемкіна.

30 мая, 12.00

«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ».
У чарговым выпуску тэлечасопіса — расказ пра лёс Зембінскай карціннай галерэі на Барысаўшчыне, знаёмства з творчасцю мастакоў Л. Дударэнкі і В. Сярова.
Вядучы — мастацтвазнавец У. Бойка.

30 мая, 18.30

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ».
Пачынаецца альманах вершамі А. Куляшова. Размову пра кнігі героіка-патрыятычнай тэматыкі вядзе пісьменнік В. Трыхманенка.
З незвычайным лёсам партрэта А. С. Пушкіна, прастрэленага кулямі, знаёміць старшы навуковы супрацоўнік Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Г. Вохмінцава.
Пра жывапісныя работы К. Каганца, якія вярнуліся ў Беларусь, расказвае дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага архіва БССР Г. Сурмач.
Вы пабываеце таксама ў вёсцы Вішнева, што на Валожыншчыне, дзе жыве і працуе пісьменнік П. Бітэль, пазнаёміцеся з жыццём і творчасцю С. Блатуна, пачуеце новыя вершы П. Прыходзькі.
Вядучая — пісьменніца В. Іпатава.

30 мая, 19.55

ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ВЕРНІСАЖ.
Ілюстрацыі Ю. Герасіменкі да аповесці В. Быкава «Знак бяды».

30 мая, 23.15

«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ».
Парад папулярных мелодый.

31 мая, 19.50

У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ. «ЖЫВОЕ ДРЭВА МУЗЫКІ».
Выступаюць студэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

31 мая, 23.45

«НАКЦЮРН».
Прагучаць творы Лядава, Аксакава, Гліэра ў выкананні А. Прыходзькі (габой), В. Хадыкі (скрыпка), Л. Максімавай (фартэпіяна).

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

Н. БАЙРАМАЎ. Дождж у пустыні. Вершы. Мн., «Юнацтва», 1987.—10 к.

Б. БУР'ЯН. І толькі надпіс... Артыкулы і эсэ. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987.—55 к.

М. ГОРКІ. Маці. Раман. На рускай мове. Мн.. «Юнацтва», 1987. — 85 к.

І. НОВІКАЎ. Ачышчэнне. Раман. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987.—2 р. 20 к.

СТАРЫ КОНЬ. Беларуская народная казка. Мн., «Юнацтва». 1987. — 10 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 13773 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.